зёй, бо калі яна трапіць у ствол, як тады ён стрэльне ў самы крытычны момант? А стрэліць, мусіць, прыйдзецца, у немца-фашыста ці ў сябе самога, без таго ўжо, відаць, не абыдзецца. Жахлівы ваенны лёс капітана цяпер ушчыльную падвёў яго менавіта да такой магчымасьці. Нічога лепшага ён ня бачыў наперадзе. Як наогул нічога ня бачыў.

Праўда, раптам зьявілася нейкая цётка, і ён не стрымаўся, нечакана для сябе папрасіў есьці. За час сваёй адзіноты і гэтага раненьня ён мала таго, што напакутваўся душой і целам, дык яшчэ і згаладнеў так, што ўжо з вялікай натугай мог узгрэбсьціся на ногі і выпаўзьці ў траншэю. Яго ўсё хістала, бы п’янага кідала з боку ў бок, у галаве чыгунна гуло і кружылася – ад слабасьці, страты крыві, гэтага жахлівага раненьня. Ён даўно страціў усялякае адчуваньне часу, нават звыклая зьмена сутак стала недаступнай яго разуменьню, як, зрэшты, і ўсё астатняе, што адбывалася навакол. З таго моманту, як ён сунуўся ў тое агнявое правальле, што пагасіла ягоную сьвядомасьць, усё для яго набыло новы сэнс, ці можа, страціла ўсякі даступны сьвядомасьці сэнс, ён кепска разумеў, што з ім адбывалася і нават хто ля яго? Мабыць, абодва вокі яго выбіла выбухам, скроні і твар пякло несьціханым агнём, але тое ён зразумеў пасьля, а тады сьвядомасьць яго затухла на нейкі няпэўны час, невядома, колькі ён праляжаў засыпаны зямлёй у траншэі, але калі апрытомнеў, яго ўжо перавязалі, – ці не санінструктар другога батальёну. Ён пачуў недалёкі голас камбата Глазырына, які пытаўся, што з ім, і той, хто перавязваў, адказаў: «Плохо дело: глаза». «Что, оба?» – данеслася здаля. «Оба, товарищ капитан». Тут непадалёк грымнула некалькі выбухаў, на яго зноў сыпанула зямлёй, і ён пачуў толькі, як камбат закрычаў на некага, каб хутчэй адкрывалі агонь кулямёты. Хлебнікава таропка перавязалі, паклаўшы па камяку ваты ў абедзьве вачніцы, з якіх усё паўзло-сачылася нешта, сьцякаючы па

шчоках і падбароддзю, і ён раз-пораз выціраў іх запэцканымі ў гразі пальцамі. Нехта памог яму дабрысьці да бліндажу і прытуліцца ў кутку на гэтым шынелку. Хлебнікаў маўчаў, ні пра што не пытаўся, трываючы жахлівы боль у галаве, ён нават ня слухаў грымоцьце бою, якое невядома чаму стала патроху сьціхаць. Найперш пацішэла на левым фланзе, выбухі, здаецца, перамясьціліся на касагорыну, убок вёскі Любашы; парадзела вінтовачнае грукаценьне побач у траншэі, а галоўнае – ён перастаў чуць галасы – ні крыкаў, ні размоваў, ні каманды. Яшчэ праз якую гадзіну стрэлы чуліся толькі за пагоркам – даносіліся дальнія кулямётныя чэргі, там жа таўкла-чахала артылерыя, толькі свая ці нямецкая – ён зразумець ня мог. Менавіта цяпер, як страціў зрок, ён пачаў слухаць-услухоўвацца ў гукі бою, каб нешта меркаваць аб ім; дагэтуль жа яго клопат быў зусім іншы – яму патрэбна была сувязь, якая ўвесь час ганебна зьнікала, ірвалася. Праз гэты пракляты клопат пра сувязь ён і апынуўся тут, у траншэі другога батальёну, дзе яго пільнавала няшчасьце. Але хіба ён мог тое прадбачыць? Зьнерваваны, раздражнёны начальнік штаба, які кіраваў боем пасьля таго, як учора забіла снарадам кампалка Сомава, сарваным голасам патрабаваў ад яго сувязь з першым і другім батальёнамі, якія трэція суткі адбівалі нямецкія атакі. Пасьля нядоўгага перапынку сувязь з першым батальёнам была ўсё ж адноўленая, а тэлефон з другім упарта маўчаў з паўдня, хоць на лінію былі пасланы аж шасьцёра сувязістаў, ды ніводзін з іх не вярнуўся. З палкавога КП пасляць ужо не было каго, і начальнік сувязі выскачыў пад агонь сам, пэўна ведаючы, што неўзабаве пакладзе і яго. Але ён ужо ня мог болей чуць пагрозьлівай лаянкі начальніка штабу, у той момант яму было ўжо ўсё роўна: выжыць або загінуць, толькі б аднавіць сувязь. Праўда, сьпярша яму нават пашчасьціла, ён зусім цэлы дабраўся да першай траншэі, у двух месцах зрасьціў перабіты аскол-

камі провад, аднавіў сувязь і нават пасьпеў яшчэ далажыць пра тое начальніку штабу. Немцы жахліва лупілі снарадамі па касагорыне і па батальёне, але тут, у траншэі, было спакайней, чым на голым полі, і Хлебнікаў рашыў трохі счакаць, перш чым выпраўляцца назад. Зноў жа ён хацеў пабачыцца з камбатам, каб запытацца, колькі той яшчэ тут пратрымаецца з батальёнам. І толькі ён, прыгнуўшыся, сунуўся з бліндажу ў траншэю, як цяжкі земляны пласт, раптоўна ўзьняты выбухам, апантана абрынуўся на яго, паваліў на сьпіну, і ён пасьпеў толькі падумаць: ня трапіла ў полі, дык во – дагнала ў траншэі. Пасьля ён ужо нічога ня памятаў, аж пакуль яго ня выцягнулі з-пад землянога завалу.

Трываючы востра-пякучы боль у галаве, Хлебнікаў ляжаў у бліндажы і чакаў, калі хоць хто-небудзь зазірне сюды, каб запытацца, што там адбываецца, дзе камбат? Але ішоў час, напэўна, ужо сьціхаў бой (што толькі нёс ён палку – перамогу ці паражэньне?), а да яго ніхто не заходзіў. Тады ў сьвядомасьць капітана пачаў паўзьці страх – ці не застаўся ён тут адзін, ці не пакінулі яго чырвонаармейцы? Гэта было б жахліва, да такога становішча ён быў не гатовы, пра тое ён нават ня мог падумаць. Але, мабыць, пакінулі. Праз нейкі час вакол зусім сьціхла, ня стала чуваць ніводнага стрэлу ці выбуху ў полі і над тарфянішчам – падобна, настала ноч. Але дзе ж нашы? Дзе другі батальён, дзе камбат? Дзе хоць бы які чырвонаармеец? Адзін, без дапамогі, забыты ўсімі, ён тут прападзе, гэта ж пэўна. Вось зьявяцца немцы, шпурнуць у бліндаж гранату, якая ўмомант размятляе ягоныя вантробы, паперабівае рукі і ногі. Добра, калі ён сканае адразу. А калі яны возьмуць яго жывым...

Напакутваўшыся так у няпэўнасьці, ён падняў свой пісталет, даслаў з магазіна патрон у патроньнік. Засталося даволі лёгкае – націснуць на спуск, і ўсё назаўжды скончыц-

ца. Мусіць, гэта ўсё ж самае лепшае. Бо іначай, што ж чакае яго, сьляпога і бездапаможнага, апроч пагібелі ад ворагаў ці ад свае раны. Не, лепей ужо ён сам. Паднесьці пісталет да балючай, няўклюдна-тоўста забінтаванай скроні і ціскануць. Якую секунду болю ў і без таго перапоўненай болем галаве і далей – нішто. Поўнае вызваленьне ад пакутаў і перажываньняў.

Мабыць, так, гэта было б найлепей, думаў капітан Хлебнікаў. І гэта прыйдзецца зрабіць. Толькі вось рашучасьці на тое ў яго не хапала, усё ён чагосьці чакаў, услухоўваўся, цягнуў – нібы на што спадзяваўся. Хіба спадзяваўся на цуд. Але ішоў час, а цуда не адбывалася, і ён лаяў сябе, абзываў баякам, сьлізьняком, – ён ужо сябе ненавідзеў за сваю нерашучасьць. І нудзіўся, пакутваў ад болю і безвыходнасьці.

Бясконца доўга цягнуўся час, Хлебнікаў змагаўся з болем і то забываўся, то губляў прытомнасьць, можа нават, зьнясілены болем, драмаў, то ўсхопліваўся, слухаў. Часам рабілася холадна, ці гэта яго знабіла, цела біла дрыжака, і ён спрабаваў хоць як-небудзь сагрэцца, захінуцца шынялём, на якім ляжаў. То рабілася горача, і ён пацеў, абліваючыся гарачым потам.

Мінуў, мабыць, не адзін дзень, хоць ён зусім ня мог адрозьніць дня ад начы; страляніна даўно спынілася, і вакол было ціха і глуха, бы ў падзямельлі. Ён і сапраўды быў у падзямельлі, воддаль ад дарог, у полі пад вёскай з такой памятнаю для яго і ласкавай назвай – Любашы. Неяк ён прахапіўся ад гулу, што глухаватай магутнаю хваляй аднекуль плыў у бліндаж, але паслухаўшы, ён падумаў, што гэта, мабыць, гудзе на шашы за тарфянішчам. Шаша-брукаванка была ўсё ж далекавата ад участку другога батальёну, ён гэта памятаў з карты, якую трымаў у руках на КП, яшчэ калі

яны ладзілі тут абарону. Шкада, тады ён ня надта цікавіўся навакольлем, не паглядзеў, дзе яшчэ былі вёскі. Хаця, што яму цяпер вёскі, хіба ён дойдзе да іх...

Невядома ўжо, ці ён спаў, ці ліпеў на мяжы страты прытомнасьці, але неяк адразу пачуў блізкія ад траншэі крокі і схапіўся за пісталет. Слухаў з дрыготкім сэрцам у грудзях, чакаючы пачуць галасы, каб дазнацца – хто? Ды не пачуў нічога. Ціхія крокі чалавека, які нібы крадзецца, спыняецца, слухае, чуліся ззаду ад бліндажу, на тыльным баку траншэі, і ён раптам спалохаўся, што ўпусьціць гэтую рэдкую магчымасьць азвацца. Але як было і азвацца? А калі там немец?..

І ўсё ж ён не стрываў, з пісталетам у руках выпаўз у траншэю, упіраючыся ў мокрыя сьцены плячмі і локцямі, неяк устаў на ногі і падаў голас. Мусіць, той яго голас прагучаў роспачна і бездапаможна, хоць ён і стараўся надаць яму сілы і рашучасьці, і ён нарыхтаваўся стрэліць.

Ды гэта была жанчына.

Цяпер ён нібы прыдбаў надзею і ўхапіўся за яе. Ён толькі баяўся, каб жанчына не ашукала яго, не напалохалася сьляпога, можа б яна памагла. Як яна магла яму памагчы, ён ня ведаў, найперш ён прасіў есьці, бо аслабелы, адчуваў, што не працягне доўга. Ён проста сканае тут, у гэтай нары, перш чым яго знойдуць свае ці немцы ці ён наважыцца ўрэшце пусьціць сабе кулю ў лоб. Гэта ўжо зусім было б брыдка, гэта проста было б па-дурному. Ну але што ён мог, невідушчы?.. Ці ён сам выбраў сабе гэты лёс? Ён толькі стаў ягонай ахвярай, – недарэчнай, крыўднай ахвярай, што папоўніць і без таго немалы сьпіс ахвяраў гэтай вялікай вайны.

## 3. Серафімка.

Адчуўшы благое, Серафімка прыбегла на свой паруйнаваны, аброслы быльнягом падворак і адразу ўбачыла расчыненыя дзьверы ў сенцы. Усё ж дзьверы яна зачыняла, як ішла раніцай, значыць, тыя там пабывалі. Серафімка кінула на падворак рыдлёўку, убегла ў цемнаватыя сенцы і адразу кінулася да кубёлка, дзе ў зрудзелым слаі солі яна з зімы ашчаджала два кавалкі сала. Ды дзе там! Побач на зямлі валялася счарнелае вечка, а ў кубёлачку было пуста – адна соль на сподзе. Значыць, пабралі, каб іх пабрала крываўка.

Серафімка ўскочыла ў сваю цесную сьцюдзёную хатку, бразнула засланкай. Чыгунок стаяў на ранейшым месцы ў выстылай печы, бульбачку яны не ўзялі. Тады яна звыкла тузанула са шкафчыка шуфлядку – акрайчык таксама быў там, – значыць усё ж будзе чым пакарміць чалавека. Таропка пачала зьбірацца ў поле: завязала ў старую хусьцінку міску з вывалянай у яе бульбай, зьверху на якую паклала акрайчык і два салёныя гуркі з гарлача, – паесьці галоднаму чалавеку пакуль што хопіць. А там будзе відаць. Яна дужа сьпяшалася, нібы баючыся, што спозьніцца, не ўратуе небараку, паправіла хустку на галаве і выбегла на падворак. Піліпёнкаў ужо нідзе не было відаць, – можа, пайшлі на свой хутар, а можа, дзе яшчэ сноўдаюць па пажарышчах. Тут яна ўпершыню падумала, што пра яе чырвонаармейца ніхто не павінен ведаць, тым больш гэтыя злыдні, ад якіх усяго чакаць можна. Яшчэ дакажуць немцам, тады хто ведае, што будзе. І яму, і ёй таксама.

Зноў усчынаўся дробны сьцюдзёнаваты дождж з заходнім ветрам, у полі было холадна, але яна ня дужа адчувала сьцюжу, яна таропка бегла сьпярша дарогай, пасьля цераз перакапаную снарадамі касагорыну да тарфянішча. Варонкі ў нізкіх мясьцінах ужо сталі набірацца вадой – мут-

на-чорнай вадой на дне; у адной яна ўбачыла нешта падобнае на адзежыну, хоць гэта мог быць чалавек, які нібыта плаваў там увесь у вадзе, і толькі ягоная сьпіна вытыркалася на паверхні. Спалохаўшыся, яна шаснула ўбок, выбегла да траншэі і доўга блыталася там у траншэйнай крапанцы, пакуль знайшла знаёмы, з пабляклай дзярніны пагорак. Мусіць, гэта быў той самы бліндаж. Але цяпер яе ніхто не сустракаў, зеўраў чарнатой нізкаваты ўваход у яго, і яна ціха паклікала:

– Ці вы тутака?..

Не адразу ў адказ пачуўся стрыманы стогн, які яшчэ болей устрывожыў яе, і Серафімка, ледзьве адольваючы страх, палезла ў цемрыва.

– Казалі, есьці... Дык во прынесла бульбачкі...

Чалавек пластом ляжаў у кутку на разасланым шынялі, у прыцемках трохі бялеў яго ўхутаны бінтамі твар.

– Вады мне...

– Вады?..

Серафімка вінавата зьдзівілася: пра ваду яна і не падумала, яна несла есьці. Але, мусіць, калі хворы, паранены, дык трэба вады, як жа яна не даўмелася адразу?..

Вандзэлачак з міскай яна пакінула ў бліндажы, а сама выпаўзла ў траншэю, згадваючы, дзе ж тут узяць вады? Апроч лужынаў у варонках ды на тарфянішчы іншай вады тут не было, трэба бегчы дамоў.

Дзе крокам, а дзе і подбегам яна адолела страшную касагорыну, дабегла да бульбянішча, тут стала спакайней. Дожджык усё сыпаў – дробны, але несьціханы, яна ўжо нямала абмокла – і куртка, і спадніца; босым нагам дождж быў ня страшны, горш, што намокла хусьцінка – другой та-

кой цёплай хусьцінкі ў яе не было. Яшчэ здаля яна ўгледзелася ў свой падворак за вішаньнікам – не, здаецца, цяпер там не было нікога. Суседская хата ўся згарэла да тла: і будынкі, і сьвіран, хляўкі, засталіся толькі платы ды чорная аграмадная Ахрэмава печ з закапцелым комінам, нейкія патарчакі ў варыўні. На гародзе, аднак, ціха пагойдвалася на ветры почапка старога пахілага асьвера над іх сумесным калодзежам. Там павінна быць і вядро, гарлач жа Серафімка ўзяла свой у сенцах і па сьцежцы пабегла да суседскага пажарышча, на якім яшчэ дзе-нідзе слаба дымела на кучах вугольле нават у дождж, зблізку відаць стала крушня каменьня на месцы былой асеці, ды ў варыўні закіданыя галавешкамі на ранейшым месцы стаялі Ахрэмавы жорны, на якіх і яна нямала памалола збожжа. Сваіх жорнаў у яе не было. Жорны толькі абгарэлі трохі з ражкоў драўлянага жолабу, а так камяні былі цэлыя і гатовыя да работы. Серафімка наліла жбан вады з калодзежу і па-над плотам зноў пашыбавала ў поле.

У гэты раз бліндаж яна знайшла хутчэй, чым надоечы, яшчэ зводдаль згледзеўшы прыкметны пагорачак, і ўсё таячы ў душы страхавітую неспадзяванку, улезла ў яго з траншэі. Паранены, як і раней, ляжаў на сьпіне, толькі адрывіста прамовіў, як пачуў яе:

– Тётка?

– Анягож! Во вадзіцы вам.

Камандзір выцяг руку з растапыранымі пальцамі, у якія яна ўклала шыйку свайго жбанка, і ён, трохі падняўшыся, глынуў вады і зноў аблёгся плячмі на зямлю.

– Спасибо.

Яна пераняла з ягоных рук жбанок і, ня ведаючы, куды тут прыткнуць яго, трымала ля сябе.

– Может, ты и спасешь меня, тётка? – памаўчаўшы, гаротна сказаў паранены.

– Дык каб жа як можна было, – лёгка азвалася яна, стоячы перад ім на каленях. – Вось тут паесьці вам, хлебца і бульбачкі.

Не скрануўшыся, ён моўчкі выцяг да яе руку, і яна падала яму акрайчык, затым у другую руку ўклала пару сьцюдзёных пазаўчарашніх бульбінаў. Камандзір з гатоўнасьцю ўсё ўзяў, але тут жа зьнямогла апусьціў на жывот занятыя харчам рукі.

– Спасибо вам.

– Дык пажаласта. Даруйце, болей няма нічога. Было сала, дык Піліпёнкі забралі.

– Какие Пилипёнки?

– А, благія людзі. Тутэйшыя.

– Благие?

– Ага. Дужа кепскія. Проста нялюдскія.

Камандзір памаўчаў, падумаў і, усё не паднімаючы рук з ежай, запытаўся:

– А ты кто же будешь?

– Ды баба. Калгасьніца. Серафімай завуць.

– Ну что ж, значит, Серафима? Семья у тебя большая?

– Не-а. Адна я.

– Одна?

– Адна. Адзінокая, – сумна прызналася Серафімка.

– В Любошах живёшь?

– У Любашах, ага. Папалілі Любашы, адны галавешкі асталіся.

– Да-а, – раздумна сказаў камандзір і змоўк. Яна таксама маўчала, ня ведаючы, што сказаць яшчэ.

– Ты никому только... Про меня. Понимаешь? – сказаў ён пасьля.

– Анягож. Я – нікому.

– Может, я поправлюсь еще. А там... Посмотрим.

– Дык папраўляйцеся. Я вам буду насіць, што трэба.

– Спасибо, тётка. Видно, хорошая ты душа, – пранікнёна сказаў Хлебнікаў, і Серафімка ледзьве стрымалася, каб не заплакаць ад пахвалы гэтага небаракі.

– Доктара б вам. Ды нешта тут...

– Да, доктора... Но, наверно, увы! Может, если бы кого из начальства... Из прежнего руководства, может. Связаться чтоб.

– Каб жа быў хто! – сказала яна. – А то ў Любашах ні брыгадзіра, ні старшыні. Старшыня дык у Судзілавічах жыў. Парцейны. Але ці застаўся цяпер?..

– Да-а... Всё рухнуло! Как в прорву... Немцев пока нет?

– Пакуль не было. Можа, абыдуць?

– Нет, не обойдут. Скоро появятся, – выдыхнуў Хлебнікаў і зноў трудна і надоўга змоўк.

Можа, ён заснуў ці забыўся на яе тут прысутнасьць, – ведама, чалавек бяз зроку, – і яна доўга сядзела ціхенька, бы мышка, стараючыся нічым не патрывожыць яго. Хлеб і бульбіны ён усё трымаў у руках, але ні разу не ўкусіў нават. У бліндажы было суха і, здаецца, ня холадна, ня тое, што ў тран-

шэі, адзін бок якой – відаць было на ўваходзе – мачыла дажджом, і мутная вада з даху тоненькім цурком лілася ў траншэю. Трохі яшчэ разважыўшы, Серафімка вылезла з бліндажу і раптам азірнулася ў траншэі – здалося, нехта мільгануў зводдаль за абрушанай траншэйнай павароткай. Схамянуўшыся, яна пастаяла трохі, паслухала, паўзіралася, але ніхто там не паявіўся, і яна падумала, што тое здалося. Тым болей, што бралася ўжо на змрок – ці то ад нізкіх хмараў на небе, ці, можа, пачынала вечарэць; дождж усё сыпаў і сыпаў з неба, скрозь па траншэі сачылася вада, сьцякала на дно з разьбітых, месцамі абрушаных бруствераў. Тады Серафімка падумала, што сёньня яна, мабыць, накорміць параненага, але што будзе ён есьці заўтра? Пра тое трэба было падумаць,і пакуль ня зьмерклася,яна вылезла з траншэі і хуценька пашыбавала па касагорыне ў вёску.

## 4. Обер-яфрэйтар Хольц.

Обер-яфрэйтар Хольц каторы раз крадком падбіраўся да бліндажу, стаіўшы дыханьне, слухаў. Ён ужо ведаў, што там хаваецца паранены рускі, хоць яшчэ ні разу ня бачыў яго. Затое ён бачыў, як сёньня па схіле пагорку ўніз бегла руская жанчына з клумачкам у руках – напэўна, несла сюды правіянт. Сапраўды, хутка яна зьнікла ў траншэі недзе каля таго бліндажу, доўга не паказвалася адтуль, і Хольц, падкраўшыся па траншэі бліжэй, намагаўся падслухаць іхнюю размову. Аднак чуваць было кепска, да таго ж перашкаджаў дождж – гучна лапатаў па яго напятай на плечы, злубянелай палатцы, хоць скідай яе ў гразь. Можа, і варта было б скінуць, каб пачуць, аб чым там гаварылі рускія, ды Хольц ня быў упэўнены, што, пачуўшы, нешта зразумее – усё ж яго веданьне рускай мовы было дужа адносным. Неяк пад горадам Баранавічы, дзе ён два дні кватараваў у рус-

кай гаспадыні, ён спрабаваў загаварыць з ёй, дык не зразумеў нічога, дарэчы, як і яна яго таксама. Аказваецца, як ён дазнаўся пасьля, гэтая руская мова мае яшчэ дыялекты, беларускі напрыклад, зразумець які яму не памог і ягоны нямецка-рускі размоўнік, што ён заўсёды насіў у кішані шыняля. Насіў да той памятнай начной бамбёжкі ў Оршы, калі Хольц гэтак бязглузда згубіў боты, санітарную сумку і шынелак з тым самым размоўнікам. Праўда, сансумку яму неўзабаве выдалі новую, боты ён таксама прыдбаў у фельдфебеля батальёну Зудермана, а шыняля з размоўнікам так і не расстараўся аж да гэтага жахлівага бою. Зрэшты, цяпер і тое, і другое было б яму вельмі дарэчы. Асабліва шынелак.

Усё ж пакуль выручала палатка – штатная камуфляжная трохвуголка з металічнымі правушынамі па ражках, без яе ён, мусіць, прапаў бы.

Адышоўшыся на тры-чатыры траншэйных калены, оберяфрэйтар асьцярожна выглянуў з-за бруствера – тая руская жанчына была ўжо далекавата, можа, на самым версе пагорку, цяпер яна бегла без аніякай ношы – значыць, клумачак пакінула ў гэтага параненага рускага. Цікава, якога яна ўзросту, гэтая жанчына, можа, маладая, падумаў Хольц. Паранены, мабыць, таксама малады афіцэр ці сяржант, і ў іх, магчыма, каханьне, можа, такое, як апісваецца ў рускіх раманах Талстога ці Дастаеўскага. Гэта, канешне, здорава – каханьне да параненага салдата, яна клапоціцца аб ім, лечыць, носіць ежу і захоўвае вернасьць навек. А калі ён памрэ, дык яна паступіць у манастыр і будзе да канца сваіх дзён маліць за яго бога. Прыгожае каханьне, шкада, у немцаў такое не прынята.

Хольц адышоўся па траншэі далекавата ад бліндажу, сьмялей пагля-дзеў па-над брустверам – на касагорыну і на шырокую разлогу тарфянога балота, месцамі залітага вадой.

Мясцовасьць тут паніжалася, было болей стаячай вады, дно траншэі ператварылася ў гразкае месіва, і ён далей не пайшоў. Пад вечар рабілася холадна, у траншэях гуляў нейкі асаблівы траншэйны скразьняк, ён даўно ўжо прабіраў лёгка апранутага обер-яфрэйтара. Зноў жа, сыпаў гэты надакучлівы дождж. Схавацца ад дажджу тут проста не было дзе. Праўда, на тым фланзе, бліжэй да дарогі, было некалькі пяхотных нораў, у якіх можна было б трохі затуліцца ад дажджу. Але там, ля дарогі, было, мусіць, больш небясьпечна, чым на гэтай балацявіне, і Хольц стараўся там не паказвацца. Мінулую ноч ён прапакутваў пад разьбітым, спаленым самаходам непадалёк ад брукаванкі, там дужа сьмярдзела паленай гумай і жалезнай акалінай, і ён болей дрыжэў, пад сваёй плашч-палаткай, чым спаў. Дзе яму пераспаць сёньня, ён проста ня мог прыдумаць і ад ранку сноўдаў па траншэі. Гэтыя рускія ўсё ж надзіва непрактычныя людзі, думаў обер-яфрэйтар, ладзілі абарону, столькі накапалі траншэяў, асноўных і запасных пазіцыяў, а крытых бліндажоў абсталявалі ўсяго два. Адзін разь-біла прамым пападаньнем снараду, і там цяпер будзе сьмярдзець ад непрыбраных, расшкуматаных трупаў, другі вось заняты гэтым параненым. Хоць ты яго выкурвай адтуль гранатай? Ці, нібыта ў гаспадара, прасіся пераначаваць?

Каб задужа не вытыркацца з мелкаватай, па грудзі, траншэі, Хольц пры-сеў у яе ня сушэйшай мясьціне, захінуўся мокрай палаткай і пачаў думаць аб сваёй горкай долі, якую яму наканавала вайна ці, можа, болей за вайну, – яго занадта страпцівы, неўраўнаважаны характар. Хаця ён ведаў, што на вайне ня надта памагалі і жалезныя нервы, цьвярозыя галовы і вытрымка, вайна ўсіх перамагала сваёй таўстамордай логікай. Ужо нашто меў жалезную вытрымку ягоны сябра класны радыст Франк, што пад носам у рускіх карэкціраваў артылерыйскі агонь, меў жалезны крыж і тры дні та-

му загінуў ад рускага снараду. Другі яго сябра і зямляк Крыстоф Шмідт, спакойны грэнадзёрскі унтэр-афіцэр, былы студэнт камерцыйнага факультэту, таксама скончыў куды як пагана: пасьля цяжкога раненьня яму ампутавалі абедзьве нагі, і цяпер ён езьдзіць на інваліднай калясцы па вуліцах свайго Оберхаўзена. Што ж датычыць цьвёрдаскурага саксонскага біцюга, іхняга камандзіра батальёну гаўптмана Лінхарда, дык яго ненавідзеў увесь батальён і асабліва ён, обер-яфрэйтар Хольц. Зрэшты, праз гэтую сваю нелюбоў да гаўптмана ён, Хольц, і апынуўся ў сваім цяперашнім драматычным становішчы. Такіх, як Лінхард, напаўпісьменных салдафонаў-выскачак у передваенныя гады зьявілася процьма ў вермахце, дзе яны сталі галоўнай апорай нацызму, бо былі вольныя ад грузу маралі, адукаванасьці ці хоць бы якой мінімальнай культуры і маліліся толькі аднаму ідалу: фюрару. І хай бы сабе маліліся, пажыраючы адзін аднаго, але для вайны ім таго стала мала – спатрэбілася процьма людзей іншых гатункаў-запасьнікоў, камерсантаў, інтэлігентаў, якіх яны не лічылі за салдат, а таму і за людзей таксама. Хольцу дык яшчэ пашэньціла, ён быў толькі адносна падначалены гэтаму Лінхарду, бо як обер-яфрэйтар санітарнай службы меў некаторую незалежнасьць у батальёне. Ва ўсякім разе па падначаленасьці гэта далёка ня тое, што які-небудзь камандзір узводу штурмавой роты. І тым ня менш і яму хапіла зьняваг і прыдзірак ад гэтага тупарылага саксонца, былога млынара і кайзераўскага фельдфебеля, які толькі пры нацызьме дапяўся да афіцэрскага чыну. Можа, два дні таму Хольц зрабіў і не па-хрысьціянску, і напэўна парушыў прысягу, але, пасланы ад'ютантам Прошке выцягнуць з поля бою параненага гаўптмана, ён раптам падумаў: а калі не цягнуць? Лінхард ляжаў у канаве з распоратай, акрываўленай брушынай, жыць яму засталося няшмат. Бой быў жахлівы, і Хольц ледзьве дапоўз да гаўптмана пад пякель-

ным агнём рускіх «максімаў», а тут яшчэ паўзьці з ім назад. Да таго ж гэты Лінхард быў з цэнтнер вагою і са два метры росту, як было далёка не атлетычнага складу Хольцу цягнуць яго два кіламетры да тарфянішча. Двое тых, што ўжо спрабавалі гэта зрабіць, ляжалі побач, унурыўшыся прабітымі галовамі ў прыдарожны быльнёг. Хольц таропка перавязаў рану непрытомнага афіцэра і, счакаўшы, калі трохі ўціхне рускі агонь, паўзком падаўся па канаве назад. Ён так разважыў, што да вечара рускія тут прайсьці не дадуць, а Лінхард неўзабаве сканае, ня трэба будзе нікуды яго і валачы. Неяк выбраўшыся з-пад агню на батальённы КП, ён бадзёра далажыў ад'ютанту, што гаўптман Лінхард, на вялікі жаль, мёртвы і эвакуіраваць яго ў тыл ня мае магчымасьці. Якое ж, аднак, было зьдзіўленьне обер-яфрэйтара, калі праз пару гадзінаў фельдфебель Шнітке, гэты рыжаморды мясьнік з Цюрынгіі, прывалок жывога яшчэ гаўпт-мана, і той, перш чым сканаць, паскардзіўся на яго, обер-яфрэйтара Хольца, што той знарок не эвакуіраваў яго з-пад агню. Ад'ютант тут жа загадаў арыштаваць обер-яфрэйтара, але пакуль ён у гарачцы бою знайшоў для та--го канваіраў, Хольц ня стаў чакаць. Адразу зразумеўшы, чым для яго гэта скончыцца, ён крадком выбраўся з КП на тарфянішча, знайшоў добрую з вадой яміну, над берагам якой і праседзеў да вечару. Ён напружана абдумваў сваё становішча, але так і не прыдумаў нічога. Батальён тым часам выбіў рускіх з іх абароны і сьцягнуўся на шашу. Хольц тады прабраўся з тарфянішча ў пустую рускую траншэю і засеў тут, ня ведаючы, што рабіць далей. Зьявіцца ў батальён ён ужо ня мог, для батальёна ён стаў дэзерцірам, прабірацца ў тыл было болей чым небясьпечна; мусіць, здацца рускім у палон было адзіным, хоць і далёка ня самым для яго лепшым выйсьцем. Але дзе тыя рускія? І як яму дапяцца да іх? У баявой паласе яго найперш схопяць свае ж, немцы, тады будзе ганьба, ваенна-па-

лявы суд, можа, нават расстрэл. На вечнае гора яго мяккай, ласкавай маці. Пра бацьку, даволі крутога характарам чалавека, ён нават баяўся падумаць: бацьку напэўна будзе спляжана ўся яго універсітэцкая кар’ера з яго нядаўна заслужаным прафесарскім званьнем. Ён ужо ведаў новую завядзёнку наццы: у падобных выпадках жорстка спаганяць ня толькі з непасрэднага віноўніка, але і з усёй ягонай радні. Як гэта аб тым ён не падумаў раней? Але ці ён спадзяваўся, што гэты саксонскі сьвіньнюк акажацца такім жыцьцястойкім нават пры сваім сьмяротным раненьні. Цяпер яму чорт ведае што рабіць далей?

Можа, лепей застрэліцца?

Але застрэліцца ён, мабыць, пасьпее, парабелум у яго заўжды пад рукой у цьвёрдай скуранай кабуры на дзязе, – парабелум ён пакуль што ня кіне. Толькі што карысьці ад пісталета, калі тут пустая разьбітая траншэя і нідзе ні кавалка хлеба, ні сухара, ні галеты. У траншэі скрозь пустыя стралковыя ячэйкі, вёскі ж наўкола папалены, жыхары іх пакінулі, усе кудысьці сыйшоўшы. Трэці дзень ён нічога ня еў і аташчаў так, што не ўпраўляўся падцягваць на жываце адвіслую з пісталетам дзягу. Ды яшчэ гэтая санітарная сумка з палявым камплектам медыкаментаў. Сумку ён ужо ледзьве цягаў на плячы, усё наважваўся дзе кінуць, але чамусьці ня кідаў, бо нешта замі-нала яму зрабіць тое, нібы ведаў, што яна яшчэ паслужыць яму. Цяпер, пасунуўшы яе на калена, Хольц нечакана падумаў: а што?.. А што калі ён зьявіцца ў той бліндаж як медык і паможа рускаму? Бо калі паранены, дык наўрад ці ён абыдзецца без медыцынскай дапамогі, якой тут чакаць болей няма ад каго. Руская жанчына – напэўна ж, ня доктар.

Обер-яфрэйтар устаў і пайшоў па траншэі назад. Дзіўна, думаў ён: не зважаючы на зьверскі агонь нямецкай артыле-

рыі і мінамётаў, забітых было тут нямнога, болей там, ля дарогі, а на гэтым участку ён ня бачыў ніводнага трупа. Ці, можа, рускія пабралі з сабой забітых? Толькі наўрад. Хутчэй за ўсё гэты ўчастак траншэі ня быў імі заняты і служыў нібы запасной ці адсечнай пазіцыяй. Ну але гэта, можа, і лепей, Хольц не любіў трупаў – ні сваіх, ні рускіх. Яшчэ як вучыўся на медыцынскім факультэце, доўга ня мог прывыкнуць да іх у анатамічным флігелі і звычайна пасьля заняткаў там да канца дня ня мог зьесьці нічога, абыходзіўся кавай. Цяпер, праўда, тое мінулася, і, калі б было што, ён бы зьеў побач з усякім трупам. Ну але ў рускага павінна быць, мо з таго клумачку што-нішто яшчэ засталося.

Ён зноў ціха падкраўся да апошняй павароткі траншэі, зірнуў на ўваход у бліндаж. Але ў чарнаце нары-ўваходу нічога не было відаць, бы там і не было нікога. Каб хоць не нарвацца на кулю, падумаў Хольц. Каб не нарвацца на кулю, напэўна, разумней было правесьці невялікія перагаворы, і ён, усё стоячы за павароткай, ціха кашлянуў.

У бліндажы па-ранейшаму было ціха, ніхто адтуль ня выглянуў, але Хольц адчуў, што яго ўсё ж пачулі. Тады ён узяў з бруствера мокры камяк зямлі і шпурнуў ім бліжэй да ўваходу.

– Кто? Серафима? – глуха данеслася з бліндажу.

Першае рускае слова Хольц зразумеў пэўна, але ён ня мог даўмецца, што азначае другое, і зноў ціха пакашляў.

– Кто там?! Не подходи! Стреляю! – ужо зусім грозна раздалося ў бліндажы, і Хольц трохі зьдзівіўся: ого, як сьвірэпа!

– Іх... Я нэмец, – сказаў ён.

– Прочь! Стреляю! – чулася з бліндажа.

– Ніхтс бояться, – як мага спакайней сказаў Хольц. – Іх... Я бояться. Я есть дезертір.

Неспадзявана для сябе ён захваляваўся і зблытаў асабістыя займеньнікі, але, мусіць, рускі яго ўсё ж зразумеў, бо памаўчаў троху і зноў крыкнуў:

– Бросай оружие! Не подходи!

Гэты адказ трохі зьбянтэжыў обер-яфрэйтара: калі кідаць зброю, дык, мусіць, можна было падысьці. Але гэты камандуе не падыходзіць. Тады ён рашыў перавесьці размову на іншае.

– Рус, я ест доктор. Медіціна.

– Какой еще доктор? – гучна данеслася з бліндажу разам з ужо знаёмым Хольцу рускім матам, які, аднак, даў оберяфрэйтару зразумець, што ягоныя словы зрабілі ўражаньне. І ён рашыў тут жа замацаваць свой маленькі посьпех.

– Іх... я немного перевязаль...

У бліндажы настала маўчаньне, пагрозаў больш не было, і Хольц наважыўся. Трохі падняўшы з палаткі рукі, каб паказаць, што яны бяз зброі, ён выйшаў з-за пavароткі. Але толькі ён ступіў першы крок, як у бліндажы раздаўся крык і тут жа бахнуў пісталетны стрэл. Кулі ён не пачуў, аднак борзьдзенька шаснуў назад, за земляны вугал.

– Рус-дурак. Обормот! – сказаў ён, злуючыся.

Тады пасьля нядоўгага маўчаньня з бліндажу глуха пачулася:

– А закурить есть?

– Курить? Табак? – зьдзівіўся Хольц.

– Да, табак. Есть табак?

– Сигареты.

– Ну давай лезь, черт с тобой!

Хольц зьдзівіўся, у яго быў у кішэні пачаты пачак танных цыгарэт, але ён цяпер не курыў – галодны, ён звычайна траціў да іх ахвоту.

На ўваходзе Хольц спадзяваўся ўбачыць рускага з накіраванай у яго зброяй, ды ня ўбачыў нікога. Тады ён апусьціў рукі і, сагнуўшыся, палез у нару.

– Рус, ніхтс боялся. Іх... Я дезертір, – ціха гаварыў ён, ведаючы, што будзе пачуты.

Тут жа ў прасторным пустым бліндажы ён убачыў рускага, той з забінтаванай галавой ляжаў у куце, і ў яго аслабелай руцэ калаціўся скіраваны на ўваход пісталет.

– Ніхтс пістоля! – мірна сказаў Хольц, ужо зразумеўшы, што перад ім сьляпы. Брудная, няўмела наладзеная павязка спаўзла да кончыку носа, з-пад яе па зашчаціненым падбароддзі цяклі гнойныя выдзяленьні, ад якіх брудам і плямамі ўзялася гімнасьцёрка ля каўняра.

– Майн гот! – сказаў Хольц. – Это ест очень плёхо. Будет перевязать.

– Дай закурить! – перш за ўсё патрабаваў рускі, не выпускаючы з рукі пісталета.

Хольц знайшоў у кішэні пакамечаны пачак [...]* , выняў адну[цыгарэту] і ўклаў у замурзаныя пальцы сьляпога. Пасьля дастаў з нагруднага кішаня запальніцу, доўга пстрыкаў сінім агеньчыкам, пакуль тая загарэлася, і паднёс рускаму. Той прагна зацягнуўся, выпусьціў дым і аблёгся на шынелак.

Рускі маўчаў, усё прагна цмыгаючы цыгарэту, але пісталет апусьціў долу, і Хольц рашуча расшпіліў санітарную сумку.

**5. Сер[афімка].**

Прыйшоўшы дамоў, Серафімка, не распранаючыся, засноўдала па сваім жытле, ахопленая новым клопатам. Трэба было агледзець, што ў яе засталося пасьля нядаўняга разору, чым яна будзе карміць параненага камандзіра. Сала ўжо не было, гэта пэўна, хлеба таксама. Але ў сенцах яна знайшла ў корабе пад лавай з пуд ячменю, нядаўна намалочанага са сваіх сотак, – мусіць, тыя Піліпёнкі ўсё ж прамінулі яго, не ўзялі. Ячмень яна патаўчэ на крупы, будзе куцьця ці крупнік, у тым ёй усё ж пашэнціла. Горш, не было ні зярняці збожжа на хлеб. Затое ў вялікім паліваным старасьвецкім гарлачы-цёрле яна ўберагла ад мышэй і злодзеяў кілаграмаў колькі леташняга бобу – таксама са свайго агароду. Ну і бульбачка. Бульбачка яе была яшчэ ня выбраная, усё зьбіралася выбраць, адкладвала і во даадкладвалася. Найперш трэба было накапаць бульбы, пакуль зусім не сьцямнелася.

Ужо амаль у цемры яна калупалася з рыдлёўкай у сваіх баразёнках, сабрала няпоўны кошык, як пачула чыйсь недалёкі голас. Голас быў ціхі, мужчынскі і чуўся, мабыць, на падворку, і яна адразу нагадала тых Піліпёнкаў. Але то былі не Піліпёнкі, – Серафімка адразу зразумела, што памылілася, як убачыла ў прыцемках чалавека, які ціха чакаў яе. Яна нясьмела падышла з кошыкам і рыдлёўкай у руках, і чалавек стрымана павітаўся.

– Што, Серафімка, жывая?

– Жывая, – адказала яна, марудна, нібы навобмацак, пазнаючы чалавека. Здаецца, усё ж гэта быў колішні местачковы настаўнік Дземідовіч. Але як ён апынуўся тут, за дваццаць кіламетраў ад мястэчка?

– І хата, гляджу, уцалела?

– Дзе там уцалела! – ціха паскардзілася Серафімка. – Толькі што сьцены. А так ні страхі, ні вокнаў. І печ патрэскалася, во комін...

– У другіх і таго не асталася.

– Не асталася, ага. Усе Любашы спалілі.

– І Любашы, і Жаўрыды, і Вострава.

– Страх адзін!

– Ну дык мо зойдзем у хату?

– Ну што ж... Вы ж тут былі неяк... Яшчэ з Мікалаем.

– Дзесяць гадоў таму, – пацьвердзіў Дземідовіч.

Яна адчыніла дзьверы ў сенцы, прайшла адтуль у цёмную хату. Тут, як і на вуліцы, было выстуджана, холадна; з пазатыканых падушкамі і рызьзём вокнаў ціха дзьмуў вецер.

– Цёмна, пасьвяціць няма чым, – сказала яна. – Во тут на ўслон сядайце.

– А сьвяціць і ня трэба, ня той час, – пагадзіўся госьць. – Я тут во сяду.

– Ага, во тут.

Дземідовіч цяжка з уздыхам апусьціўся на ўслон перад печчу і змоўк. Серафімка таксама маўчала, чакаючы пачуць ад госьця пра яго патрэбу. Але той усё пытаўся ў яе:

– Хто-небудзь яшчэ ўцалеў у дзярэўні?

– Усё папалена. З гэтага канца дык адна хата і асталася.

– Значыць, пашэньціла табе.

– Пашэньціла.

– Зноў памаўчалі, і яна пачала трохі непакоіцца, бо мела шмат справы, трэба было неяк зварыць бобу ці таўчы крупы, а гэты чалавек займаў час, ня кажучы, што яму трэба. І тады яна пачула, што дыхае ён з натугай, неяк часта і дробненька, як дыхаюць дужа прастуджаныя людзі.

– Серафіма, мне... Пераначаваць трэба.

– Во як! – амаль шчыра зьдзівілася яна.

– І гэта, прастыў я.

– Ай-яй, – паспачувала яна. –А дома...

– У тым-та і справа, што дамоў нельга мне. Цяпер як парцейнаму... Сусед жа ў мяне прыйшоў, Асоўскі. Той, рэпрэсіраваны...

– Ай-яй! – зусім ужо зьдзівілася Серафімка ад парогу. Рэпрэсіраванага чатыры гады таму Асоўскага яна з большага ведала, бачыла на вуліцы, як жыла ў брата ў мястэчку. Ён заўжды задуменна хадзіў з партфелем, такі немалады ўжо мужчына ў акулярах бяз дужак, з тонкай сіваватай бародкай, і ніколі ні з кім не вітаўся, бы не заўважаў нікога. Казалі тады, гэты Дземідовіч недзе выступаў супраць Асоўскага, і калі той цяпер вярнуўся, дык сапраўды...

– Дык гэта самае... Ужо ты мяне не прагоніш?

– Ай, што вы кажаце! Як жа я праганю!

– Во я так і падумаў: Серафіма не прагоніць. Усё ж мы з яе братам вунь як сябравалі.

Ён дужа закашляўся – кепскім, застарэла-прастудным кашлем, калі надта трудна адкашліваецца і ўсё хрыпіць у грудзях. Серафімка нахмурылася ў душы: канешне, трэба памагчы хвораму чалавеку, але было і боязна: а раптам уранку зноў прыпруцца Піліпёнкі? Ужо, мабыць, цяпер яны

ня лепшыя за таго Асоўскага, і як бы не наклікаць бяды на абодвух? Ну але і як было адмовіць чалавеку па такой халадэчы?

– Вось толькі печ у мяне сьцюдзёная: дым ня ідзе. Але вы ўжо ў запечку...

– Добра, – з пакорай сказаў Дземідовіч і ўстаў з услону.

Яна нешта кінула-паклала на палку ў запеччы, падбіла сваю падушку. Ён лёг, не распранаючыся, і яна накрыла яшчэ старым кажухом. Слабым голасам ён папрасіў:

– Можа, і яшчэ чым накрыеце? А то калоціць усяго.

Яна набрала нейкіх трантаў з шастка і добра ўхутала і галаву, і ногі Дземідовіча, які, чутна было, сапраўды калаціўся нават пад вопраткай.

– Зёлак вам трэба зварыць. Ну вы ляжыце, а я, можа, у грубцы распалю.

Усё кашляючы, ён застаўся ў запечку, а яна прынесла дроў і ўзялася распальваць у грубцы. Спакваля, неяк неахвотна тыя ўсё ж загарэліся. Дым трохі ішоў праз дзьверцы, а трохі ў комін – усё ж было лепш, чым у печы, з якой ён увесь валіў цераз чалесьнік у хату. Толькі вось зварыць што ў грубцы было цесна і нязручна, трэба было чакаць, калі збольшага прагараць дровы.

Накашляўшыся, Дземідовіч, мабыць, заснуў. У хаце, як заўжды, стала ціха і глуха, дровы паціху гарэлі, і яна, прымасьціўшыся на ўслончыку, перад дзьверцамі грубкі, узялася абіраць бульбу. Маленькі чыгунок з вадой неяк уладкавала збоч ля агню – гэта на зёлкі. У сенцах у яе было запасена з лета трохі сушонага маліньніку, чабару ў мяшэчку і яшчэ адной травы – заячых хвосьцікаў, якая, казалі, дужа памагала ад прастуды. Даўно ня белены, абшкрэбаны бок

грубкі патроху цяплеў, але холад у хаце ад таго ня меншаў, па-ранейшаму праз шчыліны з вокнаў задуваў вецер. Звыкла гонячы з бульбіны тонкую ацяробку, Серафімка думала пра брата Мікалая. Ён быў аднагодак гэтага Дземідовіча, яны разам вучыліся ў педтэхнікуме, яшчэ ў тыя даўнія гады маладымі хлопцамі прыехалі ў мястэчка настаўнічаць – Дземідовіч выкладаць гісторыю і грамадазнаўства, а яе Мікалай – беларускую мову і літаратуру. Яны добра сябравалі і нават нейкі час кватаравалі разам у доўгім, як стадола, будынку крывога Рыўкінда за сінагогай, аж покуль Мікола не ажаніўся з настаўніцай пачатковых класаў. Тады Дземідовіч і перайшоў на кватэру да гэтага Асоўскага. Як у брата нарадзілася дачушка Аленка, Серафімка перабралася з вёскі ў мястэчка няньчыць малую і спакваля зрабілася амаль паўнаўладнай гаспадыняю ў невялічкай братавай сямейцы: даглядала малую, хадзіла на кірмаш, у лаўкі, прыбірала, гатавала ежу настаўнікам, якім заўжды было некалі: увесь дзень рабілі ў школе, а ўвечары сядзелі над сшыткамі, рыхтаваліся да ўрокаў. Апроч таго, Мікалай неўзабаве ўцягнуўся ў грамадскія справы, ставіў у РДК сьпектаклі і нават пару разоў вадзіў туды і яе, – як іграў сам з жонкаю Ядзьвігай Іванаўнай. Помніць Серафімка, пастаноўка была дужа сьмешная – як да маладой дзяўчыны падбіваўся пажылы шляхцюк, а яна не хацела выходзіць за яго, бо кахалася са сваім маладым хлопцам. Дужа сьмяяліся тады ўсе, а Мікалай і іншыя артысты доўга радасна кланяліся са сцэны, і Серафімка поўнілася гонарам, так ёй хацелася сказаць усім, што гэта ж яе родны брат такі здатны артыст. Здаецца, Дземідовіч тады таксама ўдзельнічаў у п’есе, а пасьля яны ўсім гуртом завіталі да іх на кватэру, выпівалі. Серафіма частавала іх клёцкамі – было тое якраз на мясаед пасярод зімы.

Так, сябравалі, працавалі разам, а калі і што здарылася паміж імі, Серафімка ня ведала дагэтуль. Памятае толькі,

як аднойчы позна прыйшоўшы з нейкага сходу, Мікалай здаўся ёй надта расстроеным, проста разьюшаным нават, Ядзьвіга Іванаўна ўсё ўгаворвала яго, суцяшала, а ён круціў галавой і чагосьці ня мог даўмецца. Назаўтра ранічкай, застаўшыся адна з нявесткай, Серафіма запыталася пра брата, і тая скупа адказала: «Абвінавацілі ў нацыяналізме». – «У чым?» – не зразумела Серафімка. «У тым, чаго горш не бывае», – цьмяна растлумачыла нявестка.

Серафімка больш не пыталася, Мікалай патроху стаў спакайнець, па-ранейшаму вучыў у школе, а то езьдзіў у розныя кампаніі па раёне – якраз ішла калектывізацыя, і ён як партыйны больш чым у школе быў у разьездах па самых далёкіх кутках раёну. Сьпектакляў болей ня ставілі, дома не зьбіраліся; у РДК кожны вечар ішлі то сходы, то зьлёты, то канферэнцыі, але Серафімка на іх не хадзіла і пра што там гаварылі ня ведала. Яна толькі пазірала з тугой, як Мікалай усё болей змрачнеў і марнеў, рабіўся маўклівы, дома ніколі не жартаваў нават з жонкай і неяк бы адцураўся дзіця, што ўжо зусім было незразумела Серафімцы. Малой Аленцы было гадкоў шэсьць, гэта была жвавая сьмяшлівая дзяўчынка, Серафімка дужа любіла яе – нават болей за брата з нявесткай. І вось аднойчы, як яна мыла ў начоўках малую, тая раптам і кажа: «А я ведаю, чаму татка ўчора плакаў». – «Плакаў?» – жахнулася Серафімка, такога яна і не падазравала нават. «Плакаў. Таму што ён скрывіў лінію», – бадзёра адказала малая, седзячы ў мыльнай вадзе. «Якую лінію?» – «Ну тую, ну тую... Мусіць, тую, што ў дзядзі Петруся ў партфелі», – надумала пляменьніца, і Серафіма сьпярша паспакайнела, а пасьля задумалася. Мабыць, усё ж то была ня тая лінія-лінейка, што насіў у партфелі настаўнік маляваньня Пётр Пятровіч, то была нейкая іншая лінія, калі пра яе плакаў дарослы мужчына, настаўнік, яе брат. Яна ўсё хацела запытацца пра тое ў Мікалая, ды не наваж-

валася, брат па-ранейшаму быў нярвовы, маўклівы, разоў колькі, чула яна, у іх пакойчыку ўсчыналася сварка з жонкай, але за што – колькі Серафімка не ўслухоўвалася з кухні, зразумець не магла. «Прынцыповасьць, ухіл, скрыўленьне» – каго і куды, хіба ёй было зразумець з яе трыма класамі адукацыі. Тады ж памятае, неяк увечары на пачатку вясны да іх завітаў Дземідовіч з паўлітрам у кішані, яна сабрала што-нішто на стол і чула, як яны размаўлялі, болей сварыліся, аднак, – зацята і варожа, і рассталіся позна, апоўначы; злосны Мікалай нават ня ўстаў з-за стала праводзіць сябра. Болей Дземідовіча яна ў іх ня бачыла. Хутка, аднак, яна наогул не забачыла белага сьвету, плакала цэлымі днямі, а пасьля і зусім перабралася ў сваю пахілую хатку на ўскраіне Любашоў. Гэта як брата арыштавалі, а нявестка Ядзьвіга Іванаўна праз месяц адмовілася ад яго на нейкім вялікім сходзе і дома злосна сказала, каб Серафімка зьехала да Першамаю, бо яна, Ядзьвіга Іванаўна, ня хоча мець нічога агульнага ні з ворагам народу, ні з ягонай раднёй.

Ужо колькі год мінула з тае вясны, а ўсё помніцца, нібы жывое, і баліць, нібы гэта здарылася ўчора. Цяжка Серафімцы зразумець, хто тады быў правы, хто вінаваты, і ў чым грэх яе адзінага брата; можа, і правільна яго пасадзілі. Толькі дужа балюча ёй найперш за нявестку: ужо, здаецца, кахаў яе Мікалай, як толькі можна кахаць мужчыне: бывала, якую скварку ня зьесьць – усё каб ёй засталося. Якую капейчыну – ёй на ўборы, каб была ня горшай за іншых. Гэтак, гледзячы на яго, адносілася да нявесткі і яна, Серафімка. Шанавалі ў той братавай сямейцы Ядзьвігу Іванаўну болей за ўсіх астатніх. Нават больш за малую, якая ўсім дужа падабалася, і пасьля гадоў колькі Серафімка, як успамінала яе, дык адразу пачынала плакаць – ад журбы па малой Аленцы.

Дземідовіч спаў кепска, з вечара ўсё зацята, надрыўна кашляў, мусіць, пакуль сагрэўся пад Серафімчыным кажушком. Сярод начы Серафімка напаіла яго адмысловым адварам з зёлак, і ён трохі паспакайнеў, можа, заснуў крапчэй. А Серафімка так і не заснула да раньня, усё паліла-награвала грубку, каб было цяплей хоць у запечку, хоць зрабіць тое ў дзіравай, бы рэшата, хаце было нялёгка. Затым варыла бульбу. Таўчы ячмень уначы яна не наважылася, баючыся патрывожыць госьця, і сядзела перад грубкай, – то падкладвала туды дровы, то зграбала да кучы галавешкі. Так міналася ноч, і як трохі занялося днець, яна пачала зьбіраць клумак. Найперш наліла ў слоік сьвежай вады, паклала ў меншы чыгунок бульбы. На гэты раз адсыпала з сальніцы ў чыстую анучу са жменю солі, падумала: што б яшчэ ўзяць з сабой у траншэю, чым пачаставаць небараку параненага. Лекаў, апроч зёлак, у яе не было ніякіх, але зёлкі невідушчаму, пэўна, не памогуць. Дземідовіч, здаецца, спаў, пад ранак троху перастаў кашляць, і яна прыслухалася, каб учуць ягонае дыханьне, па-ранейшаму частае і хрыпатае. Будзіць ня стала, хай сьпіць. Можа, ніхто не патрывожыць, а яна хуценька зьбегае і вернецца да сьняданку – трохі бульбачкі яна пакінула яму і сабе ў накрытым чыгунку ў грубцы.

На двары, перш чым выйсьці на вуліцу, пастаяла, паслухала. Пасьцюдзянелы за ноч вецер напірыста дзьмуў з поўначы, але дажджу не было. За плотам жаласна мяўкаў нейчы асірацелы кот, мусіць занудзіўся па чалавеку. На сьмярдзючым суседскім пажарышчы вецер разьдзімаў іскры, і тыя нізка ляцелі над агародам у недалёкі садок. Над полем ужо віднела, і Серафімка хуценька патупала знаёмай дарожкай уздоўж бульбяной нівы ў поле.

**6. [Дземідовіч.]**

Дземідовіч заснуў, можа, пад ранак, з вечару яго разпораз біў кашаль, колькі ён ня стрымліваў яго – усё роўна не адчапляўся, аж разрываліся грудзі. Усё ж ён паступова сагрэўся – першы раз за якіх чатыры начы, мусіць Серафімчыны зёлкі мелі нейкую сілу. Дземідовіч дужа пакутваў – ад прастуды, непрыкаянасьці, а яшчэ болей душэўна – ад таго, што гэтак неспадзёўкі рухнуў сьвет, дзе ён прывык існаваць, дзейнічаць, жыць. Пабурыліся ўсе звыклыя меркі, адносіны, а галоўнае – загадкава, незразумела перамяніліся людзі. Тыя, каго ён ведаў шмат год запар, нават змалку, з кім жыў і працаваў гадамі, зараз, калі грымнула гэтая бяда, сталі ня тымі. Сталі незразумелымі, чужымі да ладу ці нядобрымі да яго асабіста – хто ведае. Добра было таму, хто пасьпеў далучыцца да арміі – усё ж войска зьядноўваецца дысцыплінай, загадам начальства, прысягай урэшце. А як вось тым, што мусілі застацца пад акупацыяй, як ім быць? Дземідовіч, на яго няшчасьце, хоць і лічыўся калісь камандзірам запасу, але з прычыны хваробы на сухоты быў сьпісаны з войска па чыстай, пра войска ён ня мог нават марыць. Так сталася, што ён застаўся тут, пад немцам, канешне, меў сёе-тое заданьне ад адпаведных органаў. Але во – выпадак! Ці ён думаў, што адразу ж, як прыйдуць немцы, у мястэчку паявіцца і Асоўскі, той самы правы ўкланіст, да выкрыцьця якога некалі прыклаў руку і Дземідовіч. Правільна прыклаў, бо такога, як гэты інсьпектар райана, трэба было рэпрэсаваць яшчэ гадоў на дзесяць раней. Ды тады зважалі на яго педагагічны вопыт, высокую адукацыю (падумаеш, скончыў Пецярбургскі ўнівэрсітэт; цяпер каму не вядома, чаму вучылі ў тым унівэрсітэце). Ды і з якога класу паходзіў, засталося не зусім высьветленым. Дземідовіч жа скончыў педтэхнікум, але ён быў сынам селянінапарабка (на жаль, не рабочага, як іхні заграйана Крукаў),

і ўжо ў класавых пытаньнях яму ня трэба было шмат разьбірацца – класавыя інтарэсы ён адчуваў нутром. Стычкі з Асоўскім у яго пачаліся яшчэ ў трыццатым годзе, як толькі Дземідовіч прыехаў у мястэчка настаўнікам і пачаў прымаць актыўны ўдзел у грамадскім жыцьці сьпярша камсамолу, а затым і партыі, як стаў партыйцам-бальшавіком. Стычкі адбываліся збольшага па той прычыне, што ў той час, як ён, Дземідовіч, усімі сіламі і памкненьнямі падтрымліваў палітыку партыі і кіраўніцтва, гэты Асоўскі з усяго імкнуўся зрабіць выключэньне, наконт кожнай кампаніі ён меў сваю думку. І галоўнае – нахабна выказваў яе, не зважаючы нават на прысутнасьць начальства з раёну ці нават з акругі, як ён ня раз тое тлумачыў – па праву старога бальшавіка (на самай справе даўно беспартыйнага, бо яшчэ ў дваццатыя гады яго вычысьцілі з ВКП(б)). Натуральна, што Дземідовіч ня мог трываць гэтых вылазак амаль не замаскіраванага ворага і даваў яму належны адпор. Усё тое было проста, звычайна і правільна для таго часу, хіба ў ягоным выпадку трохі ўскладнілася тою акалічнасьцю, што ён кватараваў у доме гэтага самага Асоўскага, побач з царквой, і як таго рэпрэсавалі, заняў ягоную кватэру. Ну але як было не заняць пусты дом – жонка Асоўскага Маргарыта Леапольдаўна тады зьехала ў Ленінград да інжынера-сына, і Дземідовіч быў адзіны прэтэндэнт на гэтую відную дамоўку, бо гадоў пяць цясьніўся ў ягонай бакоўцы за кухняй. Праўда, сям'я ў Дземідовіча была невялікая – ён ды жонка, дзяцей яны ня мелі – дзе ўжо тыя дзеці ў сухотніка? Заняў ладны дом, і ўсё было б добра, калі б некаторыя не пачалі зьвягаць, што, маўляў, таму і пасадзіў, што паквапіўся на жылплошчу. Але ня квапіўся, так атрымалася. І горш за ўсё ў гэтай гісторыі тое, што Мікалай Тарасевіч, ягоны юнацкі сябра, таксама паверыў у яго карысьлівасьць. З таго і пачалося.

Калі ўжо з чаго пачнецца, тады цяжка ўгадаць усе вынікі і прадбачыць хаду падзей у тых зласьлівых адносінах, тады

тыя адносіны павядуць цябе самі, часам насуперак асабістаму твайму жаданьню. Так сталася і з Міколам. Сьпярша нешта зьвягнулі жонкі, жонка Дземідовіча Паліна Аляксандраўна ўвечары неяк паскардзілася на Ядзьвігу Іванаўну, ён падумаў: дурное, прамаўчаў нават. Але праз дзён колькі сам пачуў на перапынку, як жанчыны-настаўніцы паміналі яго імя менавіта ў сувязі з яго дамоўкай. Зрабілася крыўдна, і ён пры выпадку сказаў Мікалаю, каб той крыху ўкараціў язык сваёй жонцы. Той не стрываў, ганарыста адказаў у тым сэнсе, што ня трэба было даваць падставы, не спатрэбілася б і ўкарачваць языкі людзям. «Гэта якім людзям?» – узьвіўся Дземідовіч. «Сам знаеш, якім», – сказаў Мікалай Тарасевіч, і размова на тым абарвалася.

Размова дык абарвалася, але канфлікт на гэтым ня скончыўся. І калі неўзабаве на партактыве ў дакладзе сакратара райкаму Катушкіна былі падвергнуты крытыцы некаторыя настаўнікі раёну пераважна за нацыяналістычны ўхіл, у спрэчках выступіў Мікалай Тарасевіч, яўна выгараджваючы тых настаўнікаў. Тады ўзяў слова Дземідовіч і, гледзячы ў вочы свайму нядаўняму сябру, сказаў, што замест таго, каб апраўдваць іншых, таварыш Тарасевіч павінен быў бы сьпярша прызнаць уласныя хібы ў гэтым пытаньні: і як нахвальваў «Новую зямлю» Коласа, некаторыя вершы Купалы, і як недаацэньваў пралетарскую паэзію Чарота і Александровіча. Ён тады адкрыў многім вочы на сапраўдную сутнасьць настаўніка беларускай мовы і літаратуры Тарасевіча і нікольві не раскайваўся ў тым. З бальшавіцкай праматой ён сказаў праўду, нічога не прыдумаў і не ўтаіў. Пра «Новую зямлю», напрыклад, яны колькі перагаварылі ў тыя гады, як найбольш сябравалі. Тарасевіч тады быў у захапленьні ад тае безумоўна шкоднай кулацка-нацыяналістычнай паэмы. А між тым самі Колас і Купала выступалі ў друку з чыстасардэчным прызнаньнем уласнай контррэ-

валюцыйнай дзейнасьці, якую дагэтуль ня мог распазнаць у іх творчасьці член партыі і настаўнік Мікалай Тарасевіч. Сяброўства іх з таго часу, канешне ж, ляснула, Тарасевіча праз нейкі час пасадзілі, але завошта канкрэтна – гэтага ўжо Дземідовіч ня ведаў. Да той пасадкі ён ня меў аніякага дачыненьня. Тут ягонае сумленьне было чыстае. У той час ён ужо працаваў у райкаме, і з пасадкай Тарасевіча, мусіць, пастараліся іншыя. Але не Дземідовіч.

Недзе сярод начы яго разбудзіла Серафіма, прынесла конаўку гарачага пітва, што пахла чаборам. Ён сонна піў, – зьнямогла, бяз прагнасьці, бы застарэлы хворы, і, выпіўшы, пластом аблёгся на Серафімчыны транты. Быццам трохі сагрэўся, хоць дрыжака не пакідала назусім яго прастылае цела, але ўнутры стала лепей, ён пакашляў і расплюшчыў вочы. Серафімка трудна ўздыхала ў хаце, па цёмнай і нізкай столі блукалі цьмяныя водбліскі з грубкі, і Дземідовіч падзівіўся з свае ж нечаканае думкі: дзе гэта ён так безадмоўна знайшоў прыпірышча? Ці ён думаў калі, што ў самы для яго трудны час прывеціць яго гэтая цёмная жанчына, родная сястра яго, можна сказаць, ідэйнага ворага. Калі б гэта было раней, дык пры сустрэчы ён бы з ёй не павітаўся нават, зрабіў бы выгляд, што незнаёмы. Сапраўды, мець нейкія сувязі ці падтрымліваць знаёмства з сям'ёй ворагаў народу, нацыяналістаў і контррэвалюцыянераў было болей чым неразумна – было злачынна, і многія паплаціліся за гэта. Ён жа заўсёды стараўся нічым не запляміць свой гонар бальшавіка-партыйца.

Тады ў мястэчку, як вярнуўся гэты Асоўскі, яго не было дома – ён памагаў швагру лапіць гонтам страху на варыўні, куды яны ссыпалі выбраную з агароду бульбу. Як прыбегла жонка з той ашаламляльнай навіной, ён не паверыў нават, але, мусіць, жонка не памылілася. Асоўскі, казала, стары ўжо і зьнямоглы, прыпёрся пасьляабеддзя ў дом і найперш

папытаўся пра Дземідовіча. З якой мэтай ён тое пытаўся, было вядома без далейшых роспытаў, жонка нешта ня дужа верагодна схлусіла і пабегла папярэдзіць мужа. Учуўшы тое, Дземідовіч на некалькі хвілінаў разгубіўся, а затым выразна паглядзеў на швагра і ўпершыню тады ўбачыў, як гэты добры, прастадушны чалавек адвёў свой позірк убок. Дземідовіч яшчэ ні аб чым не папрасіў яго, а той ужо замармытаў пра дзяцей, што яны малыя яшчэ, і што ён чалавек рабочы, яму чорт з ёй, абы якой уладай, была б бульба ды кавалак хлеба да бульбіны. Дземідовіч унурыў галаву, замоўк, а як надышоў вечар, кінуў у сумку кавалак хлеба і сала і разьвітаўся з жонкай. Знаёмых у раёне ў яго было шмат – настаўнікаў, партыйнага актыву, калгасьнікаў, думаў: можа і добра, што швагер не прыняў – знойдзе ня горшы прытулак у якім глухім месцы. Мо будзе яшчэ і лепш.

Найперш ён скіраваў свой шлях у Замашанскі сельсавет, бліжэй да пушчы; то быў самы глухі, хоць і далёкі куток у раёне, і там, у Замошшы, быў у яго сябра, таксама настаўнік Пракапёнак, з якім яны тры гады запар удзельнічалі ў агіткампаніях. Зноў жа Дземідовіч ня раз бываў там упаўнаважаным па падпісцы на пазыку і ведаў многіх людзей. Ужо там яму не дадуць прапасьці, там яму дапамогуць. Каб лішне не назаляць каму, пайшоў ноччу, прасёлкамі, адмахаў кіламетраў з трыццаць і пад ранак пастукаў у знаёмае высокае вакно Пракапёнка. Баяўся, таго не застане ў хаце, думаў, можа, падаўся ў эвакуацыю. Аж не, Пракапёнак быў дома. Неўзабаве яны ўжо сядзелі на кухні, выпілі па чарчыне і гаварылі пра іхнюю агульную бяду. Абстаноўка ў Замошшы, аднак, таксама была ня простая, некаторыя з людзей, нават з чэсных і ціхіх, цяпер пачалі паказваць свой нораў. Пракапёнак расказваў, як яго ўчора на вуліцы спыніў аднавокі Зуб і прыгразіў: маўляў, ваша ўлада скончылася. Пракапёнак пачаў размову, яму важна было даўмец-

ца, чаму так раптам перамяніўся гэты працавіты чалавек, бацька семярых дзяцей. Аказваецца, той не перамяніўся, ён заўжды памятаў, як упаўнаважаныя з Пракапёнкам спаганялі з яго грошы на пазыку. «Дык што ж ты хочаш, – сказаў Пракапёнак. – Калі падпісаўся, дык трэба бало плаціць». А ён кажа: «Напомніць вам, як падпісвалі? Калі памяць кароткая?» Як падпісвалі, Пракапёнак памятаў, і таму спыніў тую непатрэбную размову, і цяпер вось сядзіць, бы на вугольлі, чакае. Сыйшоў бы куды ў лес, каб не сям'я – жонка ды двое малых. Куды ад іх дзенешся?

Дзямідовіч зусім азмрачнеў, гатовы быў упасьці ў роспач і запытаўся толькі: «Ну хоць да вечара можна перабыць?» – «Да вечара можна, – кажа, – але ня болей. Сам панімаеш...»

Што ж, ён панімаў, усё ж ён быў чалавек з сэрцам і не жадаў бяды дзецям Пракапёнка. Паляжаўшы на гарышчы да вечара, ён, як зьмерклася, узяў сваю сумку і пачаў разьвітвацца. «Дык куды ж ты цяпер?» – запытаўся сябра, і Дзямідовіч сказаў: «А нікуды». Ён і сапраўды ня ведаў, куды падацца. Лепей бы ў лес, каб было лета, але, на жаль, лета скончылася, на парозе стаяла восень. Дзьмулі халодныя вятры, рудое лісьце з бяроз церушыла на Пракапёнкаў падворак...

Ноччу, ідучы па пустой і гразкай дарозе з Замошша, ён падумаў, што, мабыць, прытулку ў былых сяброў ён ня знойдзе – тыя самі баяцца, бо, канешне ж, усе на падазрэньні. Складана было і трудна ўсе перадваенныя гады, накапілася шмат гаркаты ў адносінах паміж сваімі ж, засталіся недабітыя і недавыкрытыя ворагі, якія цяпер во паказваюць свае іклы. І спадзяюцца на немцаў. Думаючы пра гэтых, недабітых, Дзямідовіч пачынаў закіпаць ад злосьці – недагледзелі, не разгадалі ў свой час. А ўжо стараліся! Але ніякай работы, мабыць, не бывае бяз браку, асабліва ў такой ра-

боце, як класавая барацьба. А што было б, каб ня гэтая барацьба, каб нікога не рэпрэсавалі, не ссылалі? І ўсе тыя яўныя і тайныя ворагі дажыліся да гэтага часу? Страшна падумаць нават, што тады было б! Парэзалі б у першую ж ноч акупацыі ўсё кіраўніцтва, партыйны актыў, усіх, хто памагаў органам. Не, мабыць, правільна іх душылі ўсе дваццаць гадоў.

А можа, і не зусім правільна?

Можа, хай бы сабе жылі мужыкі, не чапалі б іх, ня мелі б зла і яны. Зямлі было даволі, усе, хто хацеў, пасьля рэвалюцыі зямлю атрымалі і калупаліся б на ёй, як маглі і ўмелі. Вядома, што селяніну абы які, але абязкова каб уласны лапік, і ён не падніме ад яго носа, будзе калупацца ад цямна да цямна...

Але ці гэта можна было дазволіць? У сьвятле новых памкненьняў і новых рашэньняў? Паводле палажэньняў марксізму-ленінізму, якое так бурна авалодала масамі, мусіць, тое б было няправільна. А што датычыць нізавога, раённага кіраўніцтва, дык для яго галоўнае было вызначыць, што правільна, а што няправільна. Іменна паводле навукі марксізму-ленінізму. Шчасьце краіны і партыі, што на чале яе стаў правадыр Сталін, які, можа, адзіны мог тое вызначыць і ажыцьцявіць практычнае выкананьне марксісцкіх палажэньняў. Усё тое, што рабілася перад вайной, як гэта было ўсенародна прызнана, было адзіна магчыма і правільна. Дык у чым жа тут можна сумнявацца?

Усё сваё жыцьцё Дземідовіч прагнуў выразнасьці і праматы, не любіў усякіх складанасьцяў і заўжды гнаў ад сябе сумненьні, якія, ведаў, нібы твань, засмоктвалі ў сябе чалавека. Варта толькі было паддацца на кручок фактаў, усумніцца ў малым, ступіць хоць на адзін крок у багну. Ён ведаў таксама, што вагацца яму было нельга, партыйны кіраўнік

павінен быць чалавекам жалезных перакананьняў – ва ўсім даваряць кіраўніцтву, якое ўжо напэўна разумнейшае за ўсіх, хто ніжэй, і ўсё, як мае быць, абмеркавана, перш чым паявіцца перад краінай у форме пастановы ці рэзалюцыі. Ужо таварыш Сталін іх добра абдумаў. А таварыш Сталін ніколі не памыляецца, гэта было вядома кожнаму школьніку.

Так думаў Дземідовіч, тупаючы цёмнай дарогай з Замошша, і на Цім-кавіцкім раздарожжы, трохі павагаўшыся, павярнуў да Бялавіч. Там у яго не было знаёмых калег-настаўнікаў, але дзесьці жыў калгасьнік-пчаляр, якога ён падвозіў гады тры назад па дарозе з Полацку. Дземідовіч тады вяртаўся з нарады, езьдзіў на райкамаўскай лінейцы з харошым данскім жарабком у аглоблях, пчаляр з рэдкім у тутэйшых месцах імем Парфір аказаўся мяккім, разважлівым чалавекам, апавядаў пра норавы сваіх пчолаў, скупа пахваліўся сваім сынам, які ў яго быў камандзірам-лётчыкам і нядаўна прыязджаў на пабыўку з жонкай і дзіцем. Па сакрэце паведаміў, што сын пабываў у Іспаніі і мае ордэн за ўдзел у паветраных баях. Прыпамятаўшы цяпер таго Парфіра, Дземідовіч рашыў завітаць у Бялавічы, якія былі амаль па дарозе і недалёка, можа праз якіх дзесяць кіламетраў ад Замошша.

У Бялавічах ужо гасьлі рэдкія агні ў вокнах, калі ён увайшоў на вясковую вуліцу. Дзе жыў той Парфір, Дземідовіч, канешне ж, ня ведаў, і тупаў па цёмнай вуліцы, прыглядаючыся да падворкаў, каб дзе каго згледзець і запытацца. У адной хаце бразнулі дзьверы, і ён паклікаў. Маладая жанчына, сьпярша трохі спалохаўшыся, паказала яму наўкось цераз вуліцу на цёмную хату пад клёнам, і неўзабаве Дземідовіч шукаў клямку на незачыненых дзьвярах Парфіра. Парфір быў у хаце адзін, паліў нанач грубку. Дземідовіч шчыра ўзрадаваўся, павітаўся і сказаў, што, мабыць, дзядзь-

ка яго ня памятае, не пазнаў. Але той спакойна так кажа: «Чаму ж не пазнаў – пазнаў. Вы ж таварыш Дземідовіч з райкаму, хто ж вас не пазнае тут?» Дземідовіч падумаў, што тым лепей для яго, і напомніў пра іхнюю сустрэчу на Полацкай дарозе, і як яны добра пагаманілі тады аб жыцьці. Усё ж ён хацеў, сам не прызнаючыся сабе, неяк паддобрыцца да гэтага чалавека, пачуць яго спачуваньне і атрымаць дапамогу. Але Парфір ня дужа сьпяшаўся спачуваць, размову ён быццам падтрымліваў, але бяз жаднай ахвоты, толькі часта ўздыхаў, пазіраючы на агонь у грубцы. Дземідовіч скупа, але пераканаўча, як здавалася яму, расказаў пра становішча на франтах, у якім стане апынулася краіна ў выніку гэтага зьнянацкага нападу Гітлера, і як цяпер трудна ўсім і асабліва тым, што апынуліся на часова занятых фашыстамі тэрыторыях. Пра сябе ён яшчэ не сказаў ні слова, але Парфір, калі ён трохі прымоўк, раптам заўважыў, з-пад касмылявых брывоў зыркнуўшы на госьця:

– Цяпер вам трудна, гэта канешне. Але ж дзе, чалавеча, вы тады былі, як усім трудна было?

– Гэта калі? – не зразумеў Дземідовіч.

– А тады. Як стагналі ўсе, сьлёзы лілі. Галадалі і з голаду пухлі, як у трыццаць трэцім.

А, во ён пра што, з непрыемнасьцю падумаў Дземідовіч, ужо ці за нямецкую ўладу ён? За акупантаў? Усё ж цяпер Дземідовіч не хацеў абвастраць размову і даволі няпэўна адказаў:

– Было, канешне, і тады труднае. Індустрыялізацыю праводзілі, напружвалі ўсе рэсурсы. Трэба было.

– Можа, і трэба, – пагадзіўся Парфір. – Але ж нашто было з народу знушчацца? Над сваімі зьдзек утвараць?

– Ну гэта ты кінь, дзядзька, які зьдзек? Класавая барацьба была, гэта праўда. А зьдзеквацца над сваімі ніхто не хацеў.

– А тое, што, даўшы зямлю, назад адабралі – ня зьдзек? Што за працу з калгасу нічога не давалі – ня зьдзек? І што абіралі сялянаў: і мяса, і малако, і яйкі, і воўну? І скуры са сьвіней? І лён, і бульбу? І яшчэ грошы: налог, страхоўка, самааблажэньне... А пазыка? Я, думаеш, чаму тры калоды пчолаў завёў? Што дужа мёд люблю? За восем гадоў я яго лыжкі не паспытаў. Каб сплаціць усё – купіць і здаць, во для чаго. Пры тым што ў калгасе кожны дзень рабіў, летась трыста семдзесят працадзён выгнаў. А што атрымаў на іх – паўтара пуда гірсы. Ну як жыць было?

Такога Дземідовіч тут не чакаў, гэты проста аказаўся затоенай контрай. Бач ты, мала яму гірсы дасталося? Быццам іншым даставалася болей! Ці іншыя меней плацілі-здавалі дзяржаве. Але, глядзі ты, колькі накапіў крыўды!

– Дарма вы так, Парфір. Я лічыў вас сазнацельным калгасьнікам, а вы? – папракнуў Дземідовіч.

– А я і сазнацельны! – падняў ад грубкі счырванелы, аброслы сіваю шчэцьцю твар гаспадар хаты. – Я самы сазнацельны ў дзярэўні. Усё выконваў. Жылы з сябе цягнуў, а выконваў. Столькі мала хто тут стрываў, як я. Не хацеў быць несазнацельным, вінаватым дзяржаве, каб папракалі начальнікі.

– Яно і панятна. У цябе ж, здаецца, сын камандзір? Лётчык?

Парфір трохі прымоўк, бы ўспамінаючы штось невясёлае, і Дземідовіч падумаў, што пра сына сказаў, мабыць, дарэчы. Але Парфір нечакана сказаў:

– У тым-та і справа, што сын быў камандзір, лётчык. Ды сплыў. Пасадзілі лётчыка. Тры гады ні пісьма, ні прывета. Мо і жывога няма ўжо...

Ах, вось што...

– Да-а, – роздумна прамовіў Дземідовіч, са злосьцю думаючы, што і тут ашукаўся. І тут ня тое! Мабыць, гэты Парфір перажывае за сына, таму і такі ненастроены. А ён думаў: разумны дзядзька, з ім можна будзе паладзіць. Але начорта такія разумныя, што з іх карысьці? Толькі маўчаць да пары, падладжваюцца. Але во паразьвязвалі языкі, загаманілі пра тое, пра што маўчалі гадамі.

Не, тут ён не застанецца, у такога ён прасіць прытулку ня будзе. Такі яго не схавае, глядзі яшчэ заўтра ж выдасьць паліцыі. Можа, ужо і сам у паліцыі, ці там сын, зяць. Такія нам сёньня – ворагі, з неўтаймаванай злосьцю думаў Дземідовіч.

Трохі пагрэўшыся ў напаленай, ды няласкавай Парфіравай хаце, ён суха разьвітаўся і пайшоў зноў у ноч. Доўга клыпаў гравійкай, падбіўся, хацелася спаць, а спачыць не было дзе. Зноў жа пасыпаўся дождж, ад якога ня надта ўберагаў ягоны руды, пацёрты плашчык, і ён усё думаў, куды б завярнуць, дзе схавацца ад непагадзі. Ён і так колькі дзён чуўся даволі блага, пачало дапякаць нездароўе, часам ліхаманіла, а ў тую ноч на дажджы ён такі прастудзіўся добра. Ля Бывалаўскіх хутароў збочыў з гравійкі і, не разьбіраючы дарогі, дабрыў да нейкай сядзібы. Стукаць у вокны ўжо не наважыўся, згледзеў трохі наводдаль ад хаты чорную ўначы пуню і праз незачыненыя вароты ўлез у яе. У куце якраз ляжала трохі леташняй, паточанай мышамі саломы, ён зашыўся ў яе ля сьцяны і, усё дрыжучы целам, задрамаў троху да ранку.

Прачнуўся, аднак, пазнавата, ужо чуліся галасы ля хаты, але ён ня стаў абзывацца. Ён ціхенька выбраўся з пуні і, даўшы добрага кругаля, абышоў хутар, выбіўся на нейкую палявую дарожку і борзда пасігаў па ёй, каб сагрэцца. Пасьля ночы ўвогуле чуўся ён кепска, балела горла, надта ламіла косьці. Тады ж ён пачаў кашляць і спалохаўся ад думкі: ці не абвастраюцца гэта сухоты, трохі залечаныя за апошнія гады. Калі па такім часе адкрыюцца сухоты, тады яму кранты. А і сапраўды было падобна на тое. Асабліва дакучаў кашаль.

Той дзень ён на бяду яшчэ дужа прамачыў ногі ў гамашах, трава пасьля дажджу скрозь была мокрая, і недзе ў пасьляабеддзе зразумеў, што далей ісьці няма сіл. Рэшту таго дня праваляўся ў разламанай паветцы ля вёскі Берагі пад Тумілаўскай пушчай. Ён усё думаў, як выратаваць сябе, куды падацца? Дзіўна, што падацца ўвогуле не было куды, нідзе ніякае пэўнасьці, ніякай надзеі. То занадта баязьлівыя, празьмерна асьцярожныя, то няпэўныя, а то проста варожыя. І што здарылася з людзьмі? Ці сапраўды ў бяду свая рубашка бліжэй да цела?

І тады ён успомніў пра Серафімку. Ведаў яе здаўна і нават неяк улетку заязджаў у хату, яшчэ як сябраваў з Мікалаем. Ехалі з нейкага сходу, завіталі. Пасьля колькі разоў сустракаў у мястэчку, быў на кватэры. Цёмная, малапісьменная баба, звычайная вясковая цётка. Але цяпер яму, мажа, такая і трэба. Мабыць, ня будзе філасофстваваць, зводзіць рахункі, наракаць. І паможа. Калі толькі не хавае крыўды за брата.

Іншага ў яго не заставалася, а Любашы былі недзе за лесам, і надвячоркам ён пусьціўся ў дарогу – цераз лес і поле да старых торфараспрацовак, дзе на пагорачку прыткнуліся гэтыя Любашы.

## 7. [Піліпёнкі.]

Прачнуўшыся на сьвітаньні, Дземідовіч адразу зразумеў, што захварэў як мае быць. Цела ламіла ад зьнямогі, галава была цяжкая, бы чыгун, дыханьне залажыла – сухоты ці не, а запаленьне пэўнае, падумаў ён. Побач на пяколку стаяла ягоная конаўка з зёлкамі, ён трохі адпіў з яе і зноў лёг. У хаце было ціха, Серафімка, мабыць, кудысь выйшла, і ён ціхенька паклікаў раз і другі. Не, нідзе нікога. Усё ж, мабыць, трэба было неяк уставаць, штосьці рабіць. Ці хоць бы аб чымсьці дамовіцца – учора ён нават не расказаў ёй аб сваіх клопатах, – папрасіўся пераначаваць і ўсё. А што далей?

Далей трэба было падумаць, параіцца, абмеркаваць з гэтай жанчынай свой горкі лёс і папрасіць дапамогі. Авось дапаможа.

Пад стольлю трохі пасьвятлела, мабыць, на двары ўжо разьвіднела, і ён з натугай пераадольваючы слабасьць, падняўся, сеў на палок. Так, сапраўды, мусіць, сёньня ён не хадок – сёньня ён мог толькі ляжаць. Зноў нахапіўся кашаль, біў, біў, ён спрабаваў адкашляцца, ды марна. У грудзях ігралі гармонікі, цямнела ўваччу. Як бы ня страціць прытомнасьць.

Толькі ён пачаў надзяваць мокрыя гамашы, як недзе зусім побач, здалося за вуглом, грымнуў вінтовачны стрэл і зараз жа зводдаль жаласна заякатаў сабака. Дземідовіч скалануўся ад спалоху і толькі надзеў левы гамаш, як у сенцах стукнулі дзьверы, і ён падумаў, што то Серафіма. Але некалькі крокаў там далі зразумець, што не Серафімка – тупалі цяжка, цьвёрда, тузанулі дзьверы. Ён з адным гамашом у руках выглянуў з запечку, і ўваччу ў яго пацямнела. Цераз парог пераступіў і спыніўся рослы белабрысы дзяцюк у расшпіленай вайсковай ватоўцы, з вінтоўкаю ў руках. З-за ягонага пляча выглядваў другі – з драбнаватым чарнявым тва-

рам у вайсковым, з чорным аколышам, картузе на ўскудлачанай галаве. Дземідовіч здагадаўся, што, мабыць, гэта тутэйшыя паліцаі, і адчуў, як нядобра закалацілася яго сэрца.

– О, і гаспадар завёўся, – замест прывітаньня бадзёра сказаў першы. – Ці, можа, госьць? Дзень добры.

– Добры... дзень, – няўпэўнена сказаў Дземідовіч, дрыготкімі рукамі спрабуючы насунуць на нагу сыры, гразкі гамаш. У галаве закружылася, і, каб ня ўпасьці, ён апусьціўся на ўслон.

– Месны ці прыезджы будзеш? – з робленым спакоем запытаўся пярэдні. Яны абодва ўжо ўлезьлі ў цесную хату і пасталі каля парогу.

– Ды вось, як бачыце, выпадкам, – няпэўна выціснуў з сябе Дземідовіч, з натугай надзеючы гамаш. – Да цёткі...

– Да цёткі?

– Ага, да Серафімы, – рашыў да канца хлусіць Дземідовіч, бо відаць, гэта былі тутэйшыя, іначай ім адказаць ён ня мог.

– Значыць, Серафіма – цётка? – дапытваўся паліцай. – А дзе ж яна, тая цётка?

Цяжка тупаючы па дошках падлогі вялікімі гразкімі ботамі, ён прайшоў да грубкі, зазірнуў у запечча.

– Ды кудысь выйшла, – ціха сказаў Дземідовіч.

– Так, так! З якой мэтай – да цёткі? – раптам запытаў паліцай, спыніўшыся перад ім насупраць. – Надоўга?

– Ды так, наведаць, – сказаў Дземідовіч.

– Камандзір? Акружэнец?

Яны ўжо абодва прыдзірліва аглядвалі яго змарнелую ў пінжаку постаць. Затым той, чарнявы, ціха зазначыў:

– Не падобна. Гражданскі, мабыць.

– Да? Гражданскі? – утаропіўшы ў яго позірк, дапытваўся першы. – Адкуль? З раёну? З вобласьці?

– Ды ну, што вы, хлопцы! – зьмяніў стрыманы тон Дземідовіч. – Нельга ўжо родственіцу праведаць? З Полацку я.

– З Полацку?

– З Полацку.

– Гляджу, аднак, быццам мне твая фізія знаёмая, – настырчыўся першы. – Як прозьвішча?

– А навошта? Ну Максімаў.

– Максімаў... Не, усё-такі недзе я цябе бачыў. Во не прыпомню, – еў яго позіркам паліцай. Другі тым часам абышоў хату, паглядзеў за стол, у змрочныя куткі, за занавеску ў запечча. – У міліцыі рабіў?

– Ды што вы, хлопцы?

– Але дзе ж Серафімка? – не стрываў першы і праз уцалелую шыбку зірнуў у заткнутае трантамі вакно.

– Можа, карову пагнала, – паспрабаваў Дземідовіч адвесьці іхнюю ўвагу на іншае.

– О, у яе ўжо і карова паявілася! – зьдзівіўся паліцай. – А то казанскай сіратой прыкідвалася...

– Паявілася, ага.

– Тады паглядзім на выгане, – вырашыў першы. – Ну дык мы не разьвітаемся, пляменьнічак. Яшчэ пабачымся, – запэўніў паліцай ужо ў дзьвярах. Мусіць, аднак, яны мелі іншую мэту гэтага прыходу і напаткалі яго тут выпадкова. Значыць, трэба было змывацца.

Толькі куды?

Застаўшыся адзін, ён зноў адчуў сябе блага, ледзьве насунуў у рукавы непрасохлы, сыраваты з учарашняга плашч, зноў сеў на ўслон. І сядзеў так, кашляючы і слухаючы, як ад натугі зьвініць у галаве. Ён думаў, што тыя зараз прыйдуць з Серафімкай і возьмуць яго. Ці застрэляць на месцы. Каб ведаць такое, дык хоць бы дамовіцца ўчора з гаспадыняй, што ён яе пляменьнік ці брат, а то... На яго шчасьце, хутка на падворку затупалі ціхенькія крокі, і ў сенцы ступіла Серафімка. Дземідовіч падняўся з услону.

– Паліцаі былі. Цябе шукаюць.

У вачах Серафімкі шаснуў цень страху, і яна зьмянілася з твару.

– Ай, божачкі!..

– Схавай мяне куды, – загаварыў Дземідовіч. – Бо зноў прыйдуць.

– Ай, божачкі! – зноў вымавіла Срафімка і раптам падхапілася ад парогу. – Хуценька, хуценька ідзіце сюды... Я зараз зірну.

Яна выскачыла на падворак, паазіралася і зноў ускочыла ў сені.

– Ідзіце сюды... За мной, во агародамі да тых кусьцікаў...

Ён не пытаўся, куды, цяпер яму засталося толькі спадзявацца на Серафімку, у ёй быў яго паратунак. Хістаючыся ад зьнямогі, ён паклыпаў за ёй па сьцежцы цераз гарод да кустоўя, там ужо было якое-ніякое сховішча, і яна пачакала яго, узяла за руку.

– Во туды, у лясок, там... Я знаю, куды.

Паліцаі, мусіць, шукалі яго на выгане на другім канцы спаленай вёскі, а яна хутка прывяла яго ў рэдкі дробны ля-

сок з маладым бярэзьнікам, тут ужо можна было затуліцца ад вёскі, і яна пачакала крыху, пакуль ён адкашляецца.

– Што, кепска вам?

– Кепска, Серафіма, – сказаў ён, цяжка і хрыпата дыхаючы. – Я сказаў, што ты мая цётка.

– Во як! – толькі і сказала яна, з непрыемнасьцю падумаўшы, аднак: якая я табе цётка? Можа, гады на два старэйшая, магла б быць жонкай, сястрой. А то – цётка.

Яна ўжо ведала, дзе схавае яго – іншага схову ў яе не было, а ў бліндажы ўтрох ім, можа, будзе лепей. Сёньня ранічкай, як яна прынесла ежу камандзіру і насунулася на таго немца, дык ледзь не самлела ад спалоху. Добра, што камандзір азваўся, мусіць, зразумеў яе страх і супакоіў. Сказаў, што гэта дэзерцір, ня трэба баяцца. Тады яна пасьмялела трохі, але ўсё роўна баялася, пакуль, седзячы ў бліндажы, карміла сьляпога. На яе радасьць, сёньня камандзір чуўся лепей і трохі зьеў яе харчу, астатняе да крошкі даеў, мусіць, добра такі згаладнелы немец. Трэба было падумаць, чым накарміць гэтыя дзьве душы заўтра, і з такім клопатам яна прыбегла дамоў. А тут такая нагода – паліцыя. Што ж цяпер ёй рабіць, думала Серафімка. Зноў жа, гэты Дземідовіч, мусіць, захварэў не на жарты, ён зусім ня мог бегчы і хістка плёўся за ёй па малаходжанай сьцежцы ў зарасьніках, а то спыняўся зусім, кашляў – гучна і надрыўна, па-сабачы. Трохі супакоіўшыся ад спалоху ў хаце, яна пачала думаць, што цяпер, удзень, мусіць, нягожа весьці цераз поле чужога чалавека. Але і як было пакінуць хворага ў лесе? Яшчэ зусім тут абляжа, што тады з ім рабіць? Цяпер хіба што падысьці да бліндажу ня полем, а збоч, ад поплаву, тою траншэяй. Там усё ж болей схоўна. Мо так іх не заўважаць здаля.

Ня надта хутка і спрытна яны выйшлі з ляску па-над вялізным прасьцягам тарфянішча, і Серафіма, ідучы напера-

дзе, усё азіралася на Дземідовіча, прытрымлівала свой крок, каб ня дужа адрывацца ад чалавека. Так яны адолелі даволі даўгі схіл і падышлі да канца траншэі. Тут, аднак, у мелкай, па пояс, ня болей, траншэі ня надта каб было схоўна, і дужа гразка ў дне, але Серафімка скочыла ў яе шчыліну; неўзабаве туды, павагаўшыся, улез і Дземідовіч. Прыгінаючыся, яны доўга прабіраліся крывулякамі разьбітых хадоў, якія пакрысе рабіліся глыбейшымі, бруствер абапал вышэў, і высокаму Дземідовічу ўжо можна было ня горбіцца. Але, мусіць, яму не спадабалася нешта, і ён, ужо другі раз прыпыняючыся, пытаўся ў Серафімы:

– Куды гэта мы?

– Ідзіце, ідзіце, – лагодна казала яна, азіраючыся. – Там двое, але нічога. Бліндаж вялікі.

– Бліндаж?..

– Ну, бліндаж.

Дземідовіч ня ведаў, радавацца ці злаваць – бліндаж і нейкіх двое ў ім – добра, калі свае. А калі немаведама якія? Як тады яму быць?

Мусіць, ля апошняй паваротки яны спыніліся, і Серафіма ціха гукнула:

– Гэта я, Серафіма...

– Ты, тётка? – глуха данеслася з-пад зямлі, і Серафімка першая падышла да напаўзасыпанага ходу ў бліндаж. Дземідовіч жа нерашуча спыніўся зводдаль, і толькі як яна схавалася там, сунуўся сьледам.

– Во прывяла яшчэ, – казала камусь Серафімка. – Ня бойцеся, свой. У райкаме рабіў.

Дземідовіч стаяў, дужа ўгнуўшы галаву, якая ўпіралася ў нізкую столь, і ва ўсе вочы глядзеў у паўзмроку на вай-

скоўца з забінтаваным тварам, што ляжаў у куце. Той паклаў на палу шыняля свой пісталет і адхінуўся на сьпіну.

– Фамилия?

– Дземідовіч, – сказаў госьць. Тут ужо, мабыць, можна было не таіцца, перад ім ляжаў, мусіць, паранены капітан войск сувязі. Трохі паспакайнеўшы, Дземідовіч зірнуў убок, за Серафімку, і сударгава сьцяўся: з другога кутка на яго пільна і выпрабавальна ўзіраўся нейкі дзяцюк у нямецкім мундзіры з няпэўным, але адразу відаць было, чужым выразам на белабрысым твары. Мусіць, зразумеўшы зьдзіўленьне Дземідовіча, Серафімка пасьпяшалася супакоіць яго:

– Нічога, нічога… Як-небудзь…

«Добра – як-небудзь», – падумаў Дземідовіч, які ўжо быў ня супраць даць адсюль драла, каб толькі мог. Але ўжо, мусіць, яму адсюль ня выйсьці, ён ужо ў пастцы – такія думкі перш за ўсё іншае паявіліся ў яго галаве. Капітан між тым варухнуў упартым падбароддзем, паказваючы кудысьці ўбок.

– Садись, Демидович, рассказывай. Где наши? Это немец-дезертир, не обращай внимания. Закурить имеешь?

– Не куру я… – panыла выціснуў з сябе Дземідовіч.

– Не куришь? Жаль… А то у немца эти сигареты, что трава. Серафима! – паклікаў капітан. – Ты не сможешь достать курева? Ну махры там или самосада?

– Табакі? Дык дзе ж… Каб які мужчына быў.

– А ты постарайся. Без курева тут погибель… Так где фронт, не слыхать?

– А хто ж яго ведае. Але няблізка.

Дземідовіч па чарзе пераводзіў свой устрывожаны позірк то на капітана, то на немца ў куце. Пасьля апусьціўся

пад сьцяной ля ўваходу, закашляўся. Капітан услухаўся ў яго кашаль і, як той трохі прыціх, спытаўся:

– Что, простудился?

– Прастудзіўся, халера на яго…

– Да, надо было в избе полежать.

– Паляжаў ноч. Ды ранкам паліцаі выкурылі.

– Полицаи? Уже и полиция организовалась? Вот сволочи! И откуда взялись? Свои? Прихожие?

– А чорт іх ведае, – сказаў Дземідовіч, крадком пазіраючы на немца.

– Піліпёнкі, Піліпёнкі гэта, – хуценька ўставіла Серафімка. – Болей некаму. Яны – халерныя людзі.

Хлебнікаў трохі павярнуў галаву ў яе бок.

– Ты еще здесь, Серафима? Так позаботишься о куреве, да?

– Ай дзе ж, дык ня ведаю. Ну пашукаю… Дык я гэта пайду. Вячэру ж вам трэба.

Яна палезла да выхаду, і капітан яшчэ раз напомніў:

– Главное – закурить.

Яны засталіся ўтрох, у бліндажы трохі павальнела. У грудзях у Дземідовіча зноў захрыпела, ён паспрабаваў адкашляцца, ды дзе там: мабыць, забіла ўсе лёгкія. Кашляючы, крадком пазіраў на немца, які цяпер уважліва разглядаў яго і, як ён трохі сьціх, спытаў:

– Пневмония?

– Што? – аж спалохаўся Дземідовіч. – Можа быць. Калі ня горш… – сказаў ён і тут жа пашкадаваў: знайшоў каму

скардзіцца на сваю хваробу. Немец сядзеў пад сьцяной, расставіўшы калені, з перапэцканымі ботамі на нагах. На яго шырокай дзязе з белай бліскучай спражкай грувасьціўся вялікі чорны кабур, мабыць, з пісталетам, падумаў Дземідовіч. Чорт ведае, што робіцца, у якую пастку яго завяла Сэрафіма. Але ж гэты капітан? Ці ён не разумее ўсяго жаху становішча? Трэба было б запытацца ў яго, пагаварыць, але Дземідовіч усё касавурыўся на немца – а раптам той разумее па-руску?

Неўзабаве так яно і атрымалася, як ён найболей баяўся: немец, калі ён крыху суняўся пасьля кашлю, выразна сказаў да яго:

– Пневмония немножко помогаль... Их... Я имель стрептоцид.

Ён выцягнуў з кутку нейкую сумку, расшпіліў яе, пакалупаўся там і дастаў паперку, з якой вылушчыў белую таблетку.

– Браль!.. Унд васер, один таблет.

Амаль са страхам у душы Дземідовіч сядзеў насупраць, ня ведаючы, як быць: узяць ці адмовіцца. І капітан, нібы адчуўшы яго нерашучасьць, сказаў:

– Возьми! Не обманет. Мне вон глаза обработал, сразу гной течь перестал.

Дземідовіч працягнуў руку, узяў таблетку, уважліва разгледзеў яе на далоні. Праглынуць ці не? А раптам атрута? І ён сьцяў яе ў кулаку, непрыкметна сунуў у кішэнь плашча.

– Да-а, попали, как мыши в горлач, – грубавата сказаў капітан, уздыхнуўшы. – Чего дождемся?

Дземідовіч таксама ўздыхнуў і ціха заплюшчыў вочы. Карцела апусьціцца долу, скорчыцца, легчы – аддацца спа-

кою. Але як было аддавацца спакою ў гэткай кампаніі, і ён сядзеў ля ўваходу, зьнямогла сочачы з-пад ілба за немцам. Той доўга поркаўся ў сваёй сумцы – перабіраў медыцынскае начыньне – скруткі бінтоў, бутэлечкі, пакункі, нажніцы. Твар яго быў заклапочаны сваёй увагай, на іх ён ужо амаль не глядзеў. І тады Дземідовіч спытаў:

– Мусіць, афіцэр будзеце?

– Вас? – не зразумеў немец, але за яго адказаў капітан:

– Не офицер. Погоны у него какие? Без знаков? А на рукаве что у него?

– На рукаве нашыўка. Нейкі вугольнік, – сказаў Дземідовіч.

– Вот, угольник. Значит, ефрейтор.

– Я, я, – заківаў галавой немец. – Обер-ефрейтор Хольц.

– Рабочы ці селянін будзеце? – зноў пацікавіўся Дземідовіч.

– Арбайт? Ніхтс арбайт. Студент.

– А, студэнт. А бацька хто? Ацец?

– Отец у него профессор, – сказаў капітан. – Мы вчера познакомились. Ничего, хороший немец, надежный.

Дземідовіч змоўчаў: так ужо і надзейны? Адкуль гэта вядома капітану? Хіба сам сказаў? Але ён табе нагаворыць. Перавязаў галаву? А калі ён шпіён? Засланы сюды сьпецыяльна?

– Только вот сигарет прихватил маловато, – паскардзіўся капітан. – Наверно, думал в плену разжиться. А у нас у самих в кармане – вошь на аркане.

Ну курыва, мабыць, ня самае цяпер важнае, – думаў Дземідовіч. – Без табакі яшчэ ніхто не памёр. Ён во ня еў з уча-

рашняга, хоць у сумцы муляла з паўбохана хлеба, засталася трохі і сала. Але...Няёмка было цяпер тое выкладваць, а галоўнае – дзяліцца з тым немцам. Лепш ён пагаладае, а там будзе відаць.

**8. [Хлебнікаў.]**

На чацьвёрты ці пяты дзень пасьля раненьня Хлебнікаў адчуў сябе лепей, – мусіць, адляжаўся, нават выспаўся, а галоўнае – перасталі востра балець вочы і галава, і тады зьявілася надзея, што, можа, яшчэ выжыве. Не адразу ён прывычаіўся да той думкі, што ўжо не ваяка, што ягонае вайсковае мінулае засталося ўсё ззаду, і калі і выжыве, дык яго чакае нешта зусім іншае, амаль невядомае яму. Найперш – сьлепата. Бачыць яму ўжо, мабыць, ня прыйдзецца ніколі, прыйдзецца век жыць уначы. Канешне, калі толькі ўдасца выжыць... Гэтая жанчына Серафіма ўратавала яго ад голаду, адпаіла зёлкамі. Немец, дзякуй яму, памог медыцынай – учора каторы раз прамыў чымсьці сьмярдзючым вочы, было балюча і нязвыкла, але затым стала лягчэй. Канешне, усё тое было незвычайна, боязна і нават дзіка: і тое, што ён, начальнік сувязі стралковага палка капітан Хлебнікаў, цяпер бездапаможны сьляпец, і яго даглядае вясковая жанчына, і лечыць нямецкі оберяфрэйтар, – тое ня ўкладвалася ў звыклую схему ягоных разваг, у тое нават трудна было паверыць. Але чорт з ёй, са схемай, думаў капітан. Усё ж ён быў жывы і нават папраўляўся быццам, а гэта галоўнае. Што яшчэ можа быць болей галоўным на вайне? Тое, што ён цяпер апынуўся ў становішчы нечуваным, выключным, мусіць, вызваляла яго ад многіх ранейшых абавязкаў і давала нейкія новыя і нязвыклыя магчымасьці. Найперш ён адагнаў ад сябе розныя страхі і сумненьні – ён прымусіў сябе не баяцца нічога. Будзь, што будзе. Ці яму ўжо было што губляць?

І ўсё ж яго непакоіў немец, які так нечакана ўторгся ў ягоны лёс і нават рабіўся патрэбным. Тады, напачатку, мусіць бы, Хлебнікаў прыстрэліў яго, калі б хоць трохі бачыў, – не таму, што баяўся яго, а так, для пэўнасьці. Той дзень, як ён паявіўся ў бліндажы і даў закурыць, Хлебнікаў усё намерваўся, каб як зрабіць гэта нечакана і пэўна. Але гэты немец, нібы адчуваючы ягоны намер, бы жывое срэбра, круціўся па бліндажы, шархочучы то ў куце насупраць, то ля сьцяны ў нагах, то ля выхаду. Гэтак ня трапіш, а ўжо ён пэўна не прамахнецца. І Хлебнікаў пакуль што адклаў свой намер, а затым, як той узяўся лячыць яго вочы, і зусім кінуў думаць пра тое. Чорт з ім – хай жыве. Тым болей што ён сам быў цалкам ва ўладзе гэтага немца, які мог застрэліць яго кожную хвіліну. Але калі яшчэ не страляў, дык, значыць, не хацеў таго. Можа, у яго былі якія свае на тое намеры.

Можа, нашы яшчэ неўзабаве вернуцца, адаб'юць гэты раён у немцаў, і тады ён будзе выратаваны. Інакш трэба шукаць дапамогу ў мясцовых. Тут ужо ўсе спадзяванкі на Серафіму.

Трохі дзіўнаватая гэтая жанчына, думаў капітан, унадзілася ў гэтыя клопаты пра сьляпога, затым пра немца, ды яшчэ прывалакла і гэтага райкамаўца – як яна цяпер саўладае з імі трыма? Пракарміць і то, мусіць, трэба харошы запас харчоў, а ў яе дома ні каровы, ні курыцы. Ды і спаленая вёска... А тут яшчэ зьявіліся паліцаі. Чорт бы іх узяў, тых Піліпёнкаў. Як бы не ад іх ішла найбольшая пагроза Серафіме. Могуць высачыць жанчыну, тады ўсім пагібель. А яна, здаецца, такая прастадушная і падаткая...

Невядома, ці то была ноч, ці проста немец з Дземідовічам паснулі – Хлебнікаў чуў толькі іхняе дыханьне побач. Дземідовіч усё хрыпеў, часам кашляў і нават мармытаў нешта ў сьне, а капітан, чуйна скіраваўшы ў слых сваю ўвагу,

слухаў і думаў. Ён быў кадравы ваенны, даўно служыў у арміі, апроч тае службы мала што разумеў з жыцьця – адных толькі вайсковых клопатаў было яму пад завязку. Служба адбірала ўвесь час, ад ранку да ночы, выхадныя таксама, зіма праходзіла для яго за глухім гарнізонным плотам, лета з раньняй вясны – у лагерах сярод сопак і дзікай прыроды Далёкага Усходу. Жанчын ён бачыў толькі ў пасёлку ды на бліжняй станцыі, гэта былі пераважна жонкі каманднага і начсаставу іх гарнізону; з незамужніх часам трапляліся сёстры ў шпіталі ды афіцыянткі ў камандзірскай сталовай – лічаныя адзінкі на многія дзясяткі камандзіраў, жанатых і халастых. Выбар быў невялікі, маладыя жаніліся на першай, што бліжэй за іншых трапляліся ў жыцьці, і ён таксама ажаніўся з афіцыянткай Марусяй, што так міла ўсьміхалася, раздаючы ім талеркі з вялікага падносу, што спрытна насіла між радамі сталоў. Харчаваліся ня надта каб сытна, малады апетыт быў неспатольны, і Маруся яго спакваля падкормлівала тым, што было на кухні: то пакладзе на талерку які лепшы кавалак мяса, то лішнюю лыжку масла ў кашу. Ён быў удзячны за такую нязвыклую для яго жаночую ўвагу, якой мала бачыў у дзяцінстве ад строгай і сухаватай мачыхі. Маруся яму падабалася. Ужо такая здавалася мілая і ласкавая і нішто сабе з аздабы, але шчасьце з ёй у лейтэнанта Хлебнікава доўжылася з чэрвеню да кастрычніку, калі яны з лагерных палатак перабраліся ў казармы, і аказалася, што жыць ім у гарнізоне няма дзе – кватэраў для маладых не было, і яны туляліся хто дзе – у старшынскіх капцёрках, неўладкаваных гаспадарчых бакоўках. Во тады Маруся і зьмяніла свой мілы характар на плаксіва-зьвяглівы, яе каханьне абярнулася патокам прэтэнзіяў да яго, які так яе ашукаў. Яна ўжо не рабіла ў сталоўцы, а ўвесь дзень сядзела ў сваім кутку на паддашшы казармы і нудліва чакала яго, каб зараз жа, як ён прыйдзе, настылы ў полі, галодны і зьнерваваны, узяцца

яго пілаваць за іхнюю неўладкаванасьць, за ягоную невязуху з жыльлём, за тое, што ён гэтакі няўдачнік, атрымлівае шэсьцьсот рублёў у месяц і пяты год ходзіць у лейтэнантах, у той час, як ягоныя сябры пасталі капітанамі. Доўга ён спрабаваў усё тое ператварыць у жарты, абяцаў даслужыцца да генерала, тым болей, што часу да таго ў яго хапала, расказваў пра труднасьці з жыльлём і тое, што не яны адны апынуліся ў такіх умовах. Нават старшыя камандзіры і тыя нярэдка дзялілі адну кватэру на дзьве сям'і, а грошы, дык гэта такая справа, калі ўсё залежыць ад таго, як да іх ставіцца. Тыя ж ягоныя шэсьцьсот рублёў узводнага могуць быць малымі грашмі для буржуя і надта вялікімі для прыбіральшчыцы. Але дзе там! Марусіна крыўдлівая незадаволенасьць спакваля ператварылася ва ўстойлівую варажнечу да яго, жонка яго зьненавідзела. Як натура дужа зайздросная, яна бачыла ўсіх іншых мужоў яе суседак лепшымі за свайго, хоць ён ніколі не сказаў ёй грубага слова, стараўся пазьбягаць зьвягі і спрэчак. Ён болей маўчаў. Але, мусіць, тое яго маўчаньне было самым абразьлівым і нястрываным у адносінах да яе, і, неяк перабіўшыся зіму ў таёжным гарнізоне, яна вясной зьехала да родзічаў у Барнаул. Два гады ён быў ні халасты, ні жанаты, быў у камандзірскай гасьцініцы з халасьцякамі, пасылаў ёй па пошце пяцьсот рублёў у месяц, але пісьмаў не пісаў. І яна яму не пісала таксама, аж пакуль ён не атрымаў тое, дзе яна прасіла выслаць развод. Згоду на развод ён паслаў у той самы дзень і рашыў, што ніколі больш у жыцьці не наблізіцца да ніводнай жанчыны.

А гэта вось Серафіма, якую ён ні разу ня бачыў і ўжо не пабачыць ніколі, чужая і незнаёмая, даглядае яго і корміць, ратуе ад пагібелі – па сваёй добрай волі, без усякага разьліку і нават бяз жаднай надзеі. Учора, як прынесла бульбачку і ён пачаў няўмела есьці, так сардэчна забедавала, здаецца, ажно заплакала. Што за жанчына яна і якога хоць бы

ўзросту? Голас мяккі, дужа далікатны і мілагучны жаночы голас, але якая яна з твару, аб тым Хлебнікаў ня мог нават здагадвацца. Хоць бы спытаць, колькі ёй год? Канешне, жанчыны яму цяпер без патрэбы, што яму і Серафіма? Але ўсё ж такі... Ён чакаў пачуць яе голас – ведаў, тады пачынаецца дзень, яна прыносіць харч, падтрымлівае ў ім жыцьцё і тоненькай нітачкай зьвязвае яго са сьветам і безьліччу падзей, з якіх выпаў ён. Усе гэтыя дні ён дужа пакутваў бяз курыва, немец прынёс дзясятак слабых, бы трава, цыгарэт, якія ён скурыў за некалькі гадзінаў і прагнуў курыць яшчэ. Можа, і тут Серафіма яму паможа? Ня можа быць, каб у вясковых мужыкоў не знайшлося якога самасаду? Хіба што ў зруйнаванай вёсцы ня знойдзецца і мужыкоў...

Праклятая вайна, як усё няўлад абярнулася на ёй! Нават для яго, кадравага вайскоўца, для яго вайна – прафесія, і ён за гады сваёй службы ўпарта і старанна спасьцігаў яе таямніцы, складаную тэхналогію барацьбы з ворагам. І можа на вайне ён упершыню задаў сабе сакраментальнае пытаньне: ці падрыхтавалі яго хоць бы ў галоўным да таго, што гэтак спатрэбілася на фронце? Усю сваю службу, колькі памятаў Хлебнікаў, пяхоту вучылі абароне і найбольш – наступленьню, зімой і ўлетку малымі падразьдзяленьнямі і буйнымі злучэньнямі, на тактычных і штабных вучэньнях адпрацоўваліся дзясяткі варыянтаў гэтых складаных тэм. Ніхто з вайскоўцаў ня мог нават падумаць пра такія праблемы адступленьня – такога віду баявой дзейнасьці не прадугледжвалі статуты Чырвонай арміі, якая не зьбіралася адступаць ніколі і планавала разьбіць ворага малой крывёй і магутным ударам. Найбольш верагодным ворагам меркавалася імперыялістычная Японія, там ля яе, на Далёкім Усходзе, адбываліся частыя стычкі і правакацыі, на граніцах з ёю, у Маньчжурыі і Манголіі, стаялі самыя баяздольныя далёкаўсходнія дывізіі Чырвонай арміі, камандзіры ўсіх рангаў

і ступеняў нястомна вывучалі арганізацыю і тактыку японскай імператарскай арміі. Немцы перад вайною былі сябрамі, іхнія камандзіры перад вайною вучыліся ў нашых акадэміях, дыпламаты і вайскоўцы рэгулярна прысутнічалі на нашых вялікіх манеўрах БВА і КВА. На захадзе быў пакт, мір і поўны ажур.

А на справе атрымалася ўсё наадварот. Японцы мірна стаяць, дзе стаялі, немцы ж пад прыкрыцьцём пакту ўварваліся ў краіну і адцяпалі ўвесь яе захад. І няма ім супынку, пруць на Маскву. І хто вінаваты ў гэтым?

Іхні полк і дывізія адступалі ад Баранавічаў, двойчы выходзілі з акружэньня, перажылі танкавы разгром на Беразіне, страцілі большую палову асабістага складу. Несьціханым болем ныла душа па забітых сябрах, пакутвала ад бясконцых няўдач і паражэньняў, а розум ноччу, у ціхія хвіліны спакою ўсё перабіраў, варашыў тысячы розных прычынаў і фактаў, каб зразумець, у чым справа, хто вінаваты?

Неяк яны начавалі на хутары пад Менскам. Была цёмная ноч, зьбіралася на дождж, дружна насядалі камары, і, каб уратавацца ад іх, Хлебнікаў пайшоў спаць на хутар у хату. Там ужо былі палкавы начарт Бурш, начхім Емяльяненка, нехта з байцоў. Не запальваючы сьвятла, яны палеглі на лаўках, але ня спалі, гаманілі пра тое і гэта, а найбольш – пра нашы няўдачы. І тады Бурш сказаў, што ў такой сітуацыі, калі праціўнік навязвае нам сваю тактыку, трэба гэтую тактыку пераняць у яго, гэта значыць нешта пазычыць у немцаў. Тое Бурш у найбольшай меры адносіў да дзеяньня танкавых злучэньняў, а таксама нямецкай пяхоты, іхніх аўтаматчыкаў, якія дзейнічалі зусім інакш, чым гэта вызначалася ў нашых статутах. Ня ў прыклад нашым баявым парадкам, немцы наступалі ў адзін ланцуг, камандзіры ў іх былі ззаду, адкуль кіравалі боем, ніхто ў іх ня бег перад ланцу-

гом з пісталетам у руках і з крыкам «Ура!». Ніхто тады Буршу не запярэчыў. Хлебнікаў таму, што ўжо засынаў ды і адчуваў пэўна: начарт кажа праўду, што можна было сказаць насуперак? Праўда, наступаць ім яшчэ не даводзілася, яны ўсю дарогу адступалі, але контратак было ўжо нямала, і кожны раз камандзіры і камісары павінны былі весьці байцоў за сабой у штыхавую, падахвочваючы іх крыкамі «Ура!» і «За Сталіна, за Радзіму!». Ня дзіва, што сярэдніх камандзіраў у іх не хапала, у батальёнах амаль усіх павыбівала, ротамі камандавалі старшыны і сяржанты, а батальёнамі часцяком нядаўнія ўзводныя, лейтэнанты. Жахліва не хапала боеприпасаў і сродкаў сувязі, якія таксама былі далёка ня лепшыя. Хлебнікаў, калі выпадала, стараўся разжыцца трафейнымі – выдатнымі тэлефоннымі апаратамі ў эбанітавых футаралах, а таксама нямецкім чырвоным кабелем, які быў куды лепшым за наш эзекерытавы. Мабыць, праўду тады казаў Бурш, але на другі дзень, як яны былі ўжо на маршы, па калоне пакацілася чутка, што Бурша арыштавалі асобаддзельцы за пранямецкую агітацыю. На прывале пад вечар да закрытай машыны асобага аддзелу паклікалі і Хлебнікава, і ён там пісаў тлумачэньне, пра што ў той вечар гаварыў на хутары Бурш і чаму ён, капітан Хлебнікаў, ня даў яму водпаведзь. Хлебнікаў пісаў, лаяўся ў душы і праклінаў усё на сьвеце – ці ён сам думаў інакш, чым начальнік артылерыі? Але во насуперак свайму жаданьню мусіў капаць на сумленнага і разумнага камандзіра, якому тая размова, мяркуючы па ўсім, будзе каштаваць жыцьця.

А калі во цяпер напішуць на яго самога? Хоць бы за гэты хаўрус з нямецкім яфрэйтарам? Мусіць, таксама не паздаровіцца, не зважаючы, што паранены.

«Ну і чорт з ім!» – лаяўся ў думках Хлебнікаў. Ужо, мабыць, цяпер яму ня страшна нічога. Цяпер ён не камандзір

і нават не паранены. Цяпер ён – сьляпец, калека, жабрак. А жабраку-калеку можна ўсё. Усё, што дапускае яго сумленьне. Пляваць яму на іншых і іхнія відушчыя клопаты. Яны – ня ён. Бо яны відушчыя.

Яму б толькі вось закурыць...

Але ў бліндажы спалі, а Серафіма яшчэ не прыходзіла, значыць, яшчэ была ноч, дзень яшчэ не наступіў. Але, мабыць, наступіць. Што толькі ён прынясе ім у гэты бліндаж?

Ад доўгага ляжаньня на мулкіх земляных камяках даўно ўжо нылі ягоныя сьцёгны, ён круціўся на шынялі, спрабуючы легчы і так, і гэтак, але ўсё было мулка і нязручна. Сон прыходзіў урыўкамі, як да птушкі на дрэве, Хлебнікаў то крыху драмаў, то зноў вяртаўся да бязрадаснай свае рэчаіснасьці. Усё ж тут, у бліндажы, ён адчуваў сябе старшым над двума іншымі, хоць яго ніхто і не назначаў ім, але па даўняй вайсковай завядзёнцы ён рашаў за ўсіх і зьдзівіўся б, калі б хто-небудзь яго не паслухаўся. Шкада, што абодва яго падначаленыя былі з яўным бракам: адзін – немец, які ўсё ж кепска разумеў па-руску, а другі хворы – каго пашлеш, калі што будзе патрэбна? Сам таксама не хадок. Заставалася адна Серафіма.

Зноў Серафіма. Як не мяркуй, увесь сьвет для іх, мабыць, сыходзіўся на гэтай вясковай цётцы.

**9. [Серафімка.]**

Як Серафімка са стоеным страхам прыбегла ў вёску, паліцаяў ужо нідзе не было – мусіць, куды змыліся ці, можа, шукалі яе дзе ў іншым месцы. Але цяпер яна іх не баялася: Дземідовіча яна збольшага ўладкавала, а што ён прыходзіў да яе, дык што ж: зайшоў і пайшоў. Адкуль яна ведае, куды? У яго свае справы, а ў яе свае.

Клопату, канешне, у яе прыбавілася – як ніколі раней. Дагэтуль яна прызвычаілася жыць з малымі патрэбамі, нават зусім без патрэбаў – быў кавалак хлеба і бульбіна – і добра. А не было – таксама ня плакала, неяк абыходзілася, не памерла, вось дажыла да сарака гадоў і, дзякаваць богу, яшчэ здаровая. А што адна – клопат невялікі. Гэта ня тое, што ў іншых – сем'і, дзеці, кожны дзень трэба нагатаваць ім ежы, накарміць, апрануць. У яе нічога не было ў гаспадарцы, толькі дваццаць сотак агароду, дзе яна вясной пад рыдлёўку старалася пасадзіць бульбу, ну яшчэ троху гуркоў, цыбулі, буракоў – тым і жыла. У калгас хадзіла кожнага дня, куды пасылаў брыгадзір: улетку на палявыя работы – прапалка, уборка, увосень – абмалот і ўсю зіму – лён. Летась выгнала аж пяцьсот дваццаць працадзён, ні адна баба ў Любашах столькі не выганяла. Праўда, карысьці з таго мела няшмат: увосень пры разьмеркаваньні далі збожжа і гароху – прынесла ўсё на сабе ў торбе. І воза ня трэба было прасіць. Але ёй хапала. Тыя гады трымала карову, ды карову добра трымаць улетку, а чым яе пракарміць зімой? Усё ж карова – не чалавек, ёй ня скажаш, што сена няма, бо з калгасу не далі, а накасіць Серафімка ўжо не магла: ня тыя былі яе рукі. Прадала кароўку, як наймала мужчын падправіць хату – трэба было мяняць падрубку, стала дужа халодна маразамі, і яна разьвіталася са сваёй Цьвятоняй. Было тры курачкі, добра несьліся, ды, халера на яе, летась унадзілася лісіца – ведама ж, сядзіба на водшыбе, блізка кустоўе, за тры дні і перадушыла ўсіх яе трох рабенькіх. Засталася Серафімка зусім адна. Добра што трохі ўцалела хата, іншым пашэньціла меней – ні майна, ні харчу, ні жытла. Куды цяпер дзявацца з рабятамі?

Не, мусіць, яна ўсё ж вязучая, думала Серафімка, нездарма да яе ідуць людзі; цяпер вось звалілася столькі клопату – трэба было памагаць. Бо калі не паможа яна, дык прападуць

жа. І той сьляпы камандзір, і гэты Дземідовіч. Ды яшчэ немец – нейкі незразумелы салдат, але камандзір кажа: харошы. Можа яно і праўда, харошы, толькі во дзе набрацца ім харчу? Сама яна – сялянская жанчына, яна параб'ецца і бульбачкай з агароду, а ім жа, мусіць, трэба яшчэ і да бульбы. Найперш трэба хлеба. А ў яе, як на тую бяду, – ні хлеба, ні збожжа, ні мукі. Трохі ячменю і ўсё... А калі была б і мука, дык як з яе сьпячы хлеб, калі нельга напаліць у печы?

Дзьверы ў сенцы зноў былі не зачыненыя, як і дзьверы ў хату – значыць, тут пабылі тыя, і Серафімка спалохалася, што, можа, пабралі і астатняе з яе харчовых прыпасаў. Аж не, здаецца, нічога не ўзялі; усе яе транты на месцы і нават кажух – на палку, трэба будзе яго аднесьці ў бліндаж. Бо там хоць і ня холадна і зацішна, але хвораму Дземідовічу ён будзе ня лішні, – падумала Серафімка.

Міскай яна зачэрпнула з корабу ячменю, падумала, трохі адсыпала назад. Усё ж ячмень трэба было ашчаджаць, скончыцца – што тады есьці? Чым тады карміць яе небаракаў? Тое, што ўзяла, у хвартушку разаслала на цёплым з ночы пяколку за грубкай – хай крыху падсохне, будзе лепей таўчыся. Яна ім наварыць крупніку з бульбай – шкада, не было чым забяліць ці заскварыць – хоць плач. Ну і хлеб? Дзе ўзяць збожжа на хлеб, яна думала ўвесь час па дарозе з поля і дома, але нічога прыдумаць не магла. Таксама як і пра тую табаку, што прасіў камандзір. Дзе яна знойдзе цяпер табакі?

Хіба паглядзець у гародах? Найперш у старога Кірылы. Ужо такі быў курэц, гадзіны ня мог пражыць без цыгаркі, прадыміў усю хату, аж у сянях сьмярдзела табакай, мабыць, ён сеяў. Праўда, сам Кірыла памёр перад вайной, але, калі сеяў, дык, мабыць, што-нішто вырасла. Хата дык згарэла, адсюль відаць была куча вугольля на Кірылавай сядзібе з садком, а гарод, можа, зьбярогся.

Яна выбегла з хаты і, баючыся паказвацца на пустой гразкай вуліцы, каб не наткнуцца на каго благога, павярнула на зады, абышла дзьве вялікія варонкі ля сажалкі і выбралася на Кірылаў агарод. Агарод быў вялікі і спраўны, абгароджаны ладным плотам, бульба напалову выбрана, ля хаты зелянела некалькі лёх бурачніку ды цыбулі з аблеглым парудзелым пер'ем, стары, бадай ужо восеньскі, агурэчнік. Але тытуню тут не было нідзе, можа, яго ўжо ўбралі? Баючыся, як баяцца хіба нябожчыкаў, Серафімка ўзышла на падворак, узіраючыся ў атухлае і, мабыць, ужо астыглае пажарышча з чорнаю печчу пасярэдзіне. Аднекуль з крапівы вылез згаладнелы кот, пачаў жаласна мяўкаць, утаропіўшыся ў яе рудымі галоднымі вачыма. «Што я табе дам?» – разьвяла рукамі Серафімка. У куце спаленай Кірылавай істопкі пад нейкім абгарэлым друзам-капцамі страпілаў і дошак выглядваў ражок уцалелага лара, – ён таксама ўцалеў збоку, але, можа, увесь не згарэў. Згледзеўшы яго, Серафімка асьцярожна, каб часам не абпячы босыя ногі, ступіла на край пажарышча, яе ногі трохі ўвязьлі ў мяккім, халодным попеле, ступіла другі раз. Па нейкай палцы дабралася да кутка былой істопкі, адвярнула ўбок абгарэлую дошку, прываленую з канца пыльным друзам. Не, у першым сусеку было пуста. Тады яна пачала вызваляць ад друзу другі сусек гэтага лару і, як адчыніла вечка, аж скаланулася ад радасьці: у сусеку нешта было, мабыць, збожжа, зьверху трохі нават абвуглілася, але, мусіць, там можна было штосьці наскрэсьці. Серафімка таропка выбралася з пажарышча на травяністы падворак, тым жа шляхам хуценька пабегла дамоў за якой пасудзінай. У сваёй радасьці думала: можа, яе не асудзяць дужа – Кірылава нявестка з малымі, мабыць, сыйшла да радні, можа, там як пракормяцца, а яна падбярэ тое, што ўцалела ад вайны, ёй жа гэта так трэба. За сваё жыцьцё яна не ўзяла ні каліва чужога, дужа баялася нават дакрануцца, калі дзе валялася што згубленае ці пакінутае без гаспадара.

А тут... А тут хай ёй бог даруе – тыя недагаркі, можа, як дадуць ёй пракарміць небаракаў у траншэі.

Выпэцкаўшыся ўся ў попеле, яна ўсё ж трохі нагрэбла зерня – амаль напалам з абгарэлым, але ўсё ж то было жытцо, і ў ім – наша жыцьцё, як некалі гаварыла яе нябожчыца маці. Цяпер яна ўжо як-небудзь агорае пару боханаў хлеба, ня можа быць, каб, маючы збожжа, не зрабіла хлеба. Канешне, найперш трэба змалоць, а перад тым падсушыць. Але сушыць, можа, і ня трэба, падсохла на пажары, а змалоць яна паспрабуе на суседавых жорнах, мусіць, тыя стаялі спраўныя. Толькі малоць, мусіць, трэба па начы, як сьцямнее. Удзень тут наўрад ці пашэньціць. Калі шляюцца тыя Піліпёнкі, паліцыя, тады дзе ўжо там ёй малоць.

І яшчэ трэба ўсё ж такі наладзіць печ.

Яна схавала пад ламаччам у сенцах тарбіну з яе набыткам, а сама ўскараскалася на гарышча з пабуранай страшнай страхой паглядзець, што там зрабілася з комінам. Страх было бачыць тое руйнаваньне! Кроквы, мусіць, падаючы адной стараной, абярнулі яе пахілы комін, палавіна якога цяпер ляжала пад саломай на столі, чарнеючы адтулінай разламанага дымаходу, верх жа яго быў выбухам зрынуты долу і раскіданы па гародзе. Ня дзіва, што дым з печы зусім ня йшоў угору,ісьці яму не было куды; дзіўна яшчэ, што неяк цягнула з грубкі. Але палячы ў грубцы, можна было спаліць усё да тла, дзе тады жыць Серафімцы? Хоць самой перасяляйся ў бліндаж да мужчын. Мусіць, нічога ўжо тут яна зрабіць не магла, хіба апроч як заплакаць, і яна зьлезла далоў, нявесела пераканаўшыся, што паліць у хаце было немагчыма.

Але тады дзе ж паліць?

Рэшту таго дня яна капала бульбу на гародзе, ссыпала яе ў сенцах, неадчэпна думала, што рабіць? І ўсё пазірала

на вялікую, цалюткую печ за гародам – знаёмы суседчын чалесьнік дужа вабіў яе. Мусіць, там было ўсё спраўна – не ўбераглася хата, затое выжыла печ, у якой не было гаспадыні. Надвячоркам Серафіма ўжо не ўтрымалася і пайшла на чужы абгарэлы падворак. Хоць было дужа няёмка цішком шарыць па чужой сядзібе, але яна трохі прыбрала гарэлы друз ад былога парогу, разгарнула рыдлёўкай вугольле, паклала пару абгарэлых дошак, каб ямчэй было далезьці да печы. Дроў тут хапала, найбольш галавешак, кавалкаў бярвеньня і дошак – мусіць са столі. Увесь час яна надта апасалася, каб яе ня згледзеў хто кепскі, усё ж сядзіба была не яе – чужая. А найбольш яе дапякаў клопат, як уберагчыся ад паліцаяў, каб тыя не дазналіся пра яе мужчын у траншэі. Пакуль што, аднак, спаленая вёска чулася бязьлюднай, хаты да пажару стаялі ня блізка адна ад адной, і цяпер тут, з гэтага канца, на сядзібах ня бачна было нікога. Толькі ўдзень Серафімка бачыла, як на другім канцы зводдаль, ля брукаванкі, нехта, як і яна, калупаўся на Янкавым пагарэлішчы – мабыць, старая бабка ці яе нявестка. Мусіць, цяпер тут у кожнага быў свой клопат і свае сьлёзы. Мажа, гэта і лепей, думала Серафімка. Галоўнае, каб зноў не пайшоў дождж, бо калі пальє, дык ля печы напэўна не пастаіш. А можа, і будзе спакайней тады, хай ідзе дождж, – пэўна, у дождж ніхто злы не набрыдзе на яе работу.

Ёй бы вось толькі змалоць.

Ужо зьмяркалася, калі яна ўзялася рыхтаваць суседскія жорны – прынесеным з дому венікам добра вымела жолаб, абмяла ад попелу камяні. Млён і яго мацунак уверсе згарэлі, але млён не галоўнае, мабыць. Куды важней былі камяні. Знаёмыя камяні, дужа сточаныя за дзесяцігоддзі працы. Верхні дык быў разьбіты і складзены з трох кавалкаў, сьціснутых у адно жалезнымі абручамі, – ня дужа роўны і круглы камень, але малоў быцца нішто. Ня маючы сваіх жор-

наў, колькі перамалола на іх Серафімка – і тады, як жыла з бацькамі-аднаасобнікамі, і пасьля, у калгасе. Найбольш, праўда, як з бацькамі; калгасьніцай жа малоць выпадала ня шмат – з восені ды зімой. Пад вясну ўжо мліва канчалася, – елі бульбу, у каго тая яшчэ вялася. Пасьля да пачатку лета канчалася і бульба. Во тады пачынаўся вялікі пост...

Як зусім сьцямнелася і над астылымі папялішчамі ўсталявалася ветраная ноч, Серафімка наважылася. Страхавіта, бы зладзейка, падабралася ў цемры да чужога падворку, узьлезла на гарэлішча да жорнаў. Дужа сьмярдзела чымсьці гаркотным і ёлкім, бы ад сажы з коміну, але тое яе не палохала. Найболей ёй было страшна ад цішыні ночы, і яна не адважвалася першы раз пакруціць жорны, – здавалася, іхні грукат будзе чуваць аж на тым канцы вёскі. Але пакруціла, тоячы страх, пачала малоць і азірацца. Навакол было пуста і ціха, толькі шумелі дрэвы ў садку і чарнелася асадзістая печ побач. І тады ёй прыпомніўся колішні год, як амаль гэтаксама, на тых самых жорнах яна малола і баялася, баялася і малола. Але тады была не адна, у двары пільнаваў Пятрусь. Пасьля, як змалола, малоў ён на сваю патрэбу, а ля весьнічак на падворку стаяла яна. Малолі тайком, процізаконна, баючыся, бо яшчэ тыдзень таму сельсавецкія начальнікі абышлі вёску і пабілі ўсе жорны, дзе яны былі. Зьнімалі з ніжняга верхні камень, выносілі на двор і білі аб вуглавы камень падмурку, – жорны развальваліся на кавалкі. Трэба было здаць збожжа дзяржаве, а сяляне не разумелі таго, хавалі, дзе хто ўмеў – закопвалі ў ямах на гародзе, у гумне ці нават у лесе. Сьпярша начальства шукала жалезным прутом – тыцала ў розныя месцы па хляўках і падворках, але ўсё знайсьці не магло, прыбаўка ад таго нарыхтовак была мізэрная. Тады прыдумалі ўзяцца за справу з другога канца – пабіць вясковыя жорны. Меркавалі так: нямолатае збожжа есьці ня будуць, значыць, здадуць дзяржаве. Але гэты яе сусед Пятрусь мала таго, што быў чалавек

майстравіты, дык і меў хітрую галаву на плячах. Ён змайстраваў добры жалезны абруч, які сьцяў тыя разьбітыя кавалкі жорнаў, і ўладкаваў іх на ранейшае месца. Можна было малоць, і яны ноччу, калі выпадала горшае надвор'е, малолі па чарзе – Пятрусь, а пасьля Серафімка. Ці наадварот. Пад ранак гаспадар разьнімаў абруч і кідаў тых тры кавалкі на ранейшае месца ў крапіву: сельсавецкія актывісты рабілі рэгулярны абход вёскі і правяралі, ці ляжаць бітыя жорны там, куды яны кінулі іх. Ды Пятрусь абхітрыў усіх, і яны былі з хлебам. Галавасты мужык быў, гэты Пятрусь, аж покуль аднойчы за ім не прыехалі ноччу... Дагэтуль у яе засталося ў душы даволі непрыемнае адчуваньне ад тых начных страхаў, як яны туляліся тады, як злодзеі, хоць усё тое – і збожжа, і ячмень – было сваё, ня ўкрадзенае, а сумленнаю працай вырашчанае на сваіх жа надзелах. Але яны рабілі насуперак уладзе, якая, мусіць жа, мела на тое права, калі пастанавіла панішчыць іх жорны. Мабыць, так было трэба – для ўлады ці для дзяржавы. Толькі яна з Петрусём чагосьці не разумелі, калі парушалі тую пастанову. А галоўнае – хацелі есьці, Серафімцы дык што, яна была адна, а ў суседа расьлі трое ненажэрных хлопцаў-падлеткаў, якіх трэба было карміць кожнага ранку.

Малоць уначы бяз млёну было ня надта ўпраўна, яна навярэдзіла рукі шурпатаю палкай, якую прыладзіла ў правушыну камня – аж гарэлі далоні. Але за пару гадзінаў ці болей усё ж змалола начовачкі збожжа, і ніхто ёй не перашкодзіў. Ноч ляжала глухая і цёмная, шумеў вецер у абпаленым гольлі садкоў, і да гэтага пошуму глухім грукатам дамешваўся гук яе жорнаў. Навобмацак у цемры яна старанна выграбла ня дужа мяккую цеплаватую яшчэ муку і цераз гарод пабегла дамоў расчыняць хлеб.

Цяпер яна не баялася: яе мужчыны будуць ужо не галодныя. Найперш яна зварыць зацірку.

**10. [Хлебнікаў.]**

Раніцай, як толькі разьвіднела, непадалёк у траншэі пачулася ціхае шархаценьне, якое ненадоўга прыціхла, і Дземідовіч устрывожана расплюшчыў вочы, думаючы, хто: Серафіма ці, можа, паліцаі? Аж не, прыйшла Серафімка. Неяк жвава, бы нават весела, павіталася, улазячы ў бліндаж. Перад сабой яна несла, відаць было, загорнуты ў анучу чыгун, мабыць, з ежай, паставіла на зямлю каля ўваходу. І сама засталася стаяць на каленях.

– Во, заціркі вам зварыла. Учора мукі намалола, дык гэта... заціркі. Праўда, хлеба яшчэ няма, але ўчыніла хлеб, заўтра сьпяку.

У куце адразу падхапіўся капітан, сеў, загаманіў бадзёра, з нейкаю стоенай радасьцю:

– Молодец! Ну и молодец, Серафимка! Затирка, это что: каша?

– Не-а, зацірка гэта ну... зацірка. Зараз паспытаеце.

– Ну что ж, ну что ж... Поедим. А то, признаться... Проголодались.

Дземідовіч таксама паспрабаваў устаць, каб хоць сесьці ці што, – чуўся ён па-ранейшаму кепска, мо нават горш, чым учора. Ноччу ў яго быў жар, біла дрыжака, а пад ранак цела аблілося сьцюдзёным потам, і ён, трудна дыхаючы, пластом ляжаў на плашчы. Побач рухава і моўчкі ўскочыў немец, сеў, праціраючы заспаныя вочы. У бліндаж з траншэі з-за сьпіны Серафімкі цадзілася скупое сьвятло хмарнага ранку.

– Але ж во, лыжка адна! – пабедавала Серафімка. – Можа, у вас ёсьціка?

– Черта с два, – сказаў капітан. – Чего нет, того нет.

Дземідовіч, лежачы, таксама пакруціў галавой. Тады немец, мабыць, зразумеўшы іх клопат, спрытна шаснуў у бакавы кішэнь свайго кіцеля і выцяг адтуль белую лыжку, шарнірна змацаваную з такім жа белым відэльцам.

– Бітэ.

Ён працяг яе Дземідовічу, але той адмоўна крутнуў галавой – хай есьць сам. Немец не настойваў – прысунуўся бліжэй да чыгуна, але не зачэрпваў загусьцелую зьверху зацірку – чакаў. Серафімка заклапацілася каля капітана.

– Дык як жа гэта?.. Ці вы возьмеце самі?

– А ну, а ну! – сказаў капітан, адной рукой узяўшы ўкладзеную ў яе Серафімкай драўляную лыжку, а другой сьлепа мацаючы берагі чыгуна, што стаяў каля ног. Ямчэй уладкаваўшыся поруч, ён нязграбна ўлез лыжкай у чыгун і выліў зацірку з лыжкі на бот.

– Ай-яй! – сказала Серафімка.

Немец таксама нешта прамовіў, і Серафімка далікатна ўзяла з рукі небаракі сваю лыжку, зачэрпнула з чыгуна і асьцярожна данесла яе да разяўленага з-пад бінтоў капітанавага роту.

– Во так! Ай-яй! Нібы малога...

– А ничего, пойдет! Давай еще, – запатрабаваў капітан.

Серафімка дала і яшчэ, – пачала дужа асьцярожна, каб ня капнуць на гразкія капітанавы боты, карміць яго з свае драўлянай лыжкі. Спаважна, бы нават саромеючыся, з другога боку ў чыгун прасунуў кароценькую лыжку Хольц.

– Ага, бярыце, бярыце! – гасьцінна падахвоціла яго Серафімка, і немец пачаў чэрпаць жвавей.

– Дземідовіч праглынуў сьлінкі і заплюшчыў вочы, каб нават ня бачыць таго сьняданку. Добра было капітану, які ўжо нічога ня бачыў з таго, што рабілася побач. Ня бачыў, канешне, але ж, мабыць, чуў і ня мог не разумець, што робіцца. Ды і гэтая Серафімка!.. Як ні ў чым не бывала, ядуць разам з немцам і не падумаюць нават, што ён – фашыст, вораг, якія тысячамі забіваюць нашых людзей, бурць гарады і вёскі – пруць на Маскву. Не, ужо Дземідовіч на яго вудачку ня клюне – ні за харчы, ні за лекі. Учора той зноў даў яму стрэптацыд і нават вады ў кварце, але Дземідовіч ня дурань: ён толькі зрабіў выгляд, што праглынуў таблетку, а сам крадком сунуў яе ў кішэню. Ужо тыя таблеткі яму не пашкодзяць. Можа, і не памогуць таксама, але тут ужо ён будзе пэўны. Ня трэба яму такая фашысцкая дапамога.

– Ну я уже стал наедаться, – задаволена сказаў Хлебнікаў, каўтаючы чарговую лыжку. – Чтоб тем осталось.

– А хопіць, хопіць і тым, – сказала Серафімка. – Тут шмат, на ўсіх наварыла. Вы ешце, ешце, – züківала яна яфрэйтару, які трохі затрымаў сваю лыжку, зважліва пазіраючы то на яе, то на капітана.

– Это кто – райкомовец? – насьцярожыўся Хлебнікаў, адчуўшы суседа ля чыгуна.

– Не, райкомавец ляжыць. Ідзіце во ешце, – сказала Серафімка, зірнуўшы на Дземідовіча ў куце.

– А, значит, ефрейтор! – здагадаўся капітан. – Ну как русская затирка?

– О, гут! – прамармытаў Хольц.

– Гэта. Калі б яшчэ засквварыць... Ці забяліць. А то што ж – посьніца! – забедавала Серафімка.

– Ничего! И так сойдет!

Хлебнікаў задаволена адхінуўся да земляной сьцяны бліндажу, сапраўды пад'еўшы, ці, можа, робячы выгляд, што сыты. Ля чыгуна працягваў няўмела сёрбаць яфрэйтар. Дземідовіч жа нерухома ляжаў на сьпіне, трохі прыкрыўшыся плашчом, і Серафімка сказала:

– Дык чаго ж вы не ясьцё? Лыжка ж ёсьць.

– Я пасьля, – буркнуў Дземідовіч.

– Як ваша прастуда? Ці лепей крыху?

– Мабыць, ня лепей.

– Ой забылася... Кажух жа вам трэба прынесьці.

– Было б добра – кажух.

– А табачку не того? Не расстарались? – ціхім голасам зважліва папытаўся Хлебнікаў.

– Ой, дык няма ж! Хадзіла па гародах – няма нідзе і самасейкі, – спахапілася Серафімка.

– Да-а? Ну что ж, потерпим. Правда, ефрейтор?

– Я, я, – з гатоўнасьцю азваўся Хольц.

Але той, мабыць, таксама насёрбаўся заціркі і неўзабаве ўзяўся абціраць кавалкам бінту сваю белую лыжку. Тады да чыгуна зьнямогла прысунуўся Дземідовіч. Зацірка для яго была не навіна, ён добра ўведаў яе смак у сваім галаднаватым жыцьці. Але, мусіць, хвароба панішчыла ў ім і адчуваньне голаду, і цяпер больш трох лыжак ён зьесьці ня мог. Ужо колькі дзён ня лезла ў горла ніякая ежа, не пайшла цяпер і зацірка.

– Усё. Больш не магу...

– Ой, дык як жа вы без яды? – гаротна зморшчыла тварык Серафімка.

– Хай вунь той... даядае, – кіўнуў Дземідовіч на немца, і Серафімка спытала:

– Можа і праўда – даясьцё?

Яфрэйтар, на дзіва, зразумеў і зноў з гатоўнасьцю дастаў сваю лыжку. За некалькі хвілінаў ён зусім апаражніў чыгун – рэшту старанна выскраб па берагах – мусіць, ня трэба было і адмываць.

– Ну і добра! – задаволена сказала Серафімка. – Пайду кажух вам прынясу. Ці, можа, увечары?.. Халера на іх, каб на паліцыянтаў не налезьці.

– Ни в коем случае! Слышь, Серафима? – насьцярожыўся капітан.

– Дык я ж панімаю. Што ж я, малая...

– Вот-вот! А иначе всем крышка. И тебе не поздоровится!

– Я ж акуратна. Аглядаюся ўсё. Каб нідзе нікога.

– Правильно! Спасибо тебе, милая женщинка, – пранікнёна вымавіў капітан, і ў Серафімкі прыкметна заружавеліся шчокі. Мусіць, хвалілі яе нячаста ў жыцьці, тым болей незнаёмыя мужчыны, і цяпер тая капітанава пахвала сапраўды кранула жанчыну.

Серафімка загарнула ў анучу пусты чыгун і, прыгнуўшыся, палезла да выхаду. За ёй, трохі счакаўшы, выбраўся яфрэйтар. Хлебнікаў, штосьці засяроджана думаючы, сядзеў пад сьцяной. У бліндажы ўвогуле было ня холадна, толькі часам з траншэі павявала ветрам, а так было зацішна і трохі трымалася накопленае за ноч людское цяпло. Застаўшыся ўдвох, Дземідовіч павярнуў галаву да капітана.

– Ён – куды?

– Кто?

– Немец. Выйшаў – куды?

– А хоть бы куда! Нам какое дело? – ня надта зважліва адказаў капітан.

– Вы не баіцёся? – счакаўшы, запытаўся Дземідовіч.

– А чего мне бояться? Чего уж мне-то бояться? – з горыччу загаманіў капітан.

– А што выйдзе і гранату сюды. Ці з пісталету?..

– Зачем?

– Зачым? Ну, ведаеце... Немец усё ж такі.

– Черт с ним, что немец! – вылаяўся капітан. – Какой ему смысл – гранату! Он бы мог меня – из пистолета. В первую же ночь. Но ведь не застрелил. Наверно, нет интереса. Сам в западне. И он, и я, и ты тоже. Разве не понятно?

Дземідовіч змоўчаў – ён не хацеў прадаўжаць такую размову, бо, мабыць, капітан адмаўляўся зразумець простыя рэчы. Цяпер, аднак, ня час быў тлумачыць іх гэтаму ўпартаму чалавеку – іхнюю размову мог пачуць немец. Калі ўжо не пачуў з траншэі?

Калі яфрэйтар неўзабаве вярнуўся, яны моўчкі сядзелі на ранейшых месцах, бы і не размаўлялі, і немец бадзёра сказаў да капітана, жартоўна паціраючы далікатныя пальцы:

– Ну, будем немножко... лечить? Посмотреть ваш глаза. Болно?

– Ничего, сносно. Может, обойдется... Слушай, ефрейтор, ты бы лучше табачку раздобыл... Ну, пук-пук, понимаешь? Сигаретку.

– Цигареттен? Никс цигареттен, – разьвёў рукамі яфрэйтар.

– А ты поищи. Может, где убитый, понимаешь? А?

Яфрэйтар нахмурыў белы лоб пад пілоткай, падумаў і ляснуў сябе па сьцёгнах.

– Карашо! Хольц идет посмотреть!

– Сходи, да. Авось где-нибудь попадется. А то, понимаешь, уши пухнут, так курить хочется.

Згрэбшы з долу сваю плашч-палатку, яфрэйтар вылез у траншэю. З бліндажу было бачна, як ён там сьпярша агледзеўся – у адзін бок, затым у другі – і хутка зьнік недзе. У бліндажы зрабілася ціха, і было чуваць, як дзесь ля ўваходу шаргацеў быльнягом вецер.

– Вы думаеце, ён не разумее па-руску? – ціха сказаў Дземідовіч.

– Кто? Немец? Вполне возможно, кое-что понимает.

– Дык як жа так? – чагосьці ня мог сьцяміць Дземідовіч. Яго болей абуралі зусім безуважныя адносіны гэтага капітана да ворага, і Дземідовіча цягнула распачаць сур’ёзную размову.

– А что – как же? Он, может, мне курева принесет. Ты же не принесешь, правда? – лёгка гаварыў капітан.

– Ён можа паліцыю прывесьці. Або сваіх...

– Ну и черт с ним! Если такой... Или за свою жизнь очень переживаешь? – нешта зразумеўшы, запытаў капітан.

– А вы не перажываеце?

– Я не переживаю. Я уже всё пережил, к твоему сведению.

– Але гэта – не прычына для страты пільнасьці.

– Чего-чего?

– Пільнасьці. Ну – бдительности.

Тыя Дземідовічавы словы відавочна і як мае быць укалолі капітана, ён рыўком падняўся і сеў пад сьцяной.

– О чем вспомнил! Где же вы, такие бдительные, раньше были? Как в Кремле с Риббентропом целовались?

Капітан гэтак нечакана пераходзіў на рызыковыя [словы], што Дземідовіч унутрана паморшчыўся, ён такіх размоваў не любіў, ад іх заўжды веяла небясьпекай. Перш чым адказаць, ён трохі падумаў, але адказаў, мабыць, так, як і належала адказаць у такіх выпадках:

– Калі цалаваліся, дык, мабыць, такая палітыка была. У інтарэсах дзяржавы.

– Это какой державы? Не нашей ли?

– Ну канешне, нашай.

– Ах нашей! Во теперь эти интересы боком и вылезают. Через тех умников.

– Не лічыце, што там дурнейшыя за вас.

– Я не личу. Наверное, поумнее. Но вот какое дело. Почему при их уме немцы под Москву топают? А я здесь валяюсь. Слепой. Теперь они что ли мне свои глаза вставят?

Дземідовіч маўчаў, лежачы ў сваім куце, а Хлебнікаў ужо легчы ня мог. Мусіць, Дземідовіч наступіў на яго набалелы мазоль, і ён загаварыў бадай з адчаем у голасе:

– Бдительность! На глазах всего мира Гитлер обдуривал – этого не видели! А теперь, когда стало видно, с кого взыскать? Он же безгрешен и гениален во веки веков. А Красной армии отдуваться за эту его гениальность. Своей кровью смывает его всесветную глупость. Чтобы он был безгрешен и величествен, как всегда.

– Вы гэта пра каго? – з жахам абмёр Дземідовіч.

– Про кого? Знаешь, про кого.

– Ну, знаеце!! – сказаў Дземідовіч і змоўк. Ён быў абураны і амаль зьбянтэжаны – такога ён не чакаў. Гэты сьляпы камандзір проста не разумеў, што казаў. І Дземідовіч быў змушаны слухаць, ня ведаючы, што зрабіць. – Такога я ад вас не чакаў, – сказаў ён ледзь чутна. – Вы, мабыць, і ў нашую перамогу ня верыце? Што нашыя вернуцца?

– Я верю, что наши вернутся, – сказаў Хлебнікаў. – Но я уже к ним не вернусь, вот в чем беда. Даже если и выживу. Я уже не тот. Тот был зрячий, а я слепец.

– Нельга ж так, усё пра сябе.

– А про кого же еще? У меня семьи нет, родителей тоже. Я в детдоме воспитывался. И я искалечен навеки. Следовательно, я свободен. Это ты думаешь, как тебе перед райкомом вывернуться, оправдаться хотя бы за этого немца. Наверное же, убить его ты не сможешь – оружия нет. А он вот тебя может в два счета. А не убивает. Ты задавался мыслью: почему?

– Можа, яшчэ і заб'е, – ціха сказаў Дземідовіч. – Адкуль я ведаю.

– Не убьет, – упэўнена сказаў Хлебнікаў. – Он теперь с нами повязан одной веревочкой. Ибо все мы здесь неудачники. И выпали из системы. Мы из нашей, он из своей. Мы – брак. А брак известно куда – на свалку.

– Як гэта брак? – зьдзівіўся Дземідовіч. – Так вы пра сябе можаце сказаць. А я не такі. Я палітычна не перамянюся.

– Можешь не меняться. Зато к тебе переменятся.

– Я яшчэ, можа, папраўлюся.

– Вполне возможно. И дождешься наших. Только что ты в анкете напишешь? Наверное же, придется анкету заполнять?

Дземідовіч замест адказу ва ўсе вочы недаўменна глядзеў на забінтаваны, неяк задраны ўгару падбароддзем твар капітана.

– На оккупированной территории был? Был. С немецким фашистом связь имел? Имел. Есть свидетели. Скрыть не удастся.

Дземідовіч прыгнечана маўчаў. Сапраўды, мабыць жа, пра ўсё тое прыйдзецца ў свой час напісаць, растлумачыць – ці зразумеюць тады яго? Ці ён зваліць усё на гэтага сьляпога капітана. Капітан сьляпы, але ж ты, скажуць, мабыць, быў відушчы, бачыў, з кім спаў у адным бліндажы?

Чорт бы яго ўзяў, гэтага немца, паныла разважаў Дземідовіч, і адкуль ён зваліўся на іхнюю галаву? Што яму тут трэба? Чаго ён тырчыць каля іх, ня йдзе нікуды? Хоць да сваіх, хоць да фронту, каб здацца ў палон, калі такі – з бракам. Тое, што гэтая гісторыя не абыдзецца для Дземідовіча добра, ён адчуваў пэўна, вось толькі ня ведаў, што было рабіць? Быў бы здаровы, ні адной гадзіны не застаўся б тут, з немцам ды з гэтым вар'яцкім капітанам, якому сапраўды, мабыць, не было ўжо чаго губляць (што возьмеш са сьляпога?). Але ж Дземідовіч мог згубіць усё. Такім потам нажытое, ніколі нічым не заплямленае...

Мусіць, выказаўшыся пра набалелае, Хлебнікаў змоўк і пачаў чакаць немца. Дужа хацелася курыць, і ён сябе цешыў тым, што калі яфрэйтар доўжыцца, дык, мабыць, недзе шукае. Авось прынясе. Серафімка, ведама ж, жанчына, яна найперш дбае пра харч, ці яна разумее, што мужыку болей за харч бывае патрэбна закурыць? Бяз харчу яшчэ можна пра-

жыць, а вось без табакі... На Дземідовіча Хлебнікаў не злаваў – такіх баяк-перастрахоўшчыкаў за сваё жыцьцё капітан перабачыў нямала. Яны на словах быццам дбаюць пра высокія інтарэсы дзяржавы, прыкідваюцца каменнымі артадоксамі, а самі проста баяцца. Хіба ён сам усё жыцьцё быў не такі, мала баяўся? Зрэшты, час ад часу палохалі добра, было чаго і баяцца. Вось і гэты райкамавец: як пачуў пра тое, што яго напэўна чакае, адразу праглынуў язык. А то – інтарэсы дзяржавы, разумнае кіраўніцтва...

Рэшту таго дня яны ляжалі моўчкі. Дземідовіч то драмаў, то прачынаўся. Перад вечарам прыбегла Серафімка, прынесла кажух, і Дземідовіч таропка загарнуўся ў яго. Стала куды лепш, і ён хваравіта і квела заснуў. Серафімка сказала, што ўначы будзе пячы хлеб, ранічкай прынясе, тады ім голад будзе ня страшны.

А немца ўсё не было, і Хлебнікаў пачаў трывожыцца: ці ня здарылася з ім што кепскае? А можа, пабег да сваіх? Усё магло быць. Ён ужо ведаў, што на вайне хапала ўсяго пад самую завязку...

### *[11. Нохем.]*

*[Серафімка] ранічкай бегла ў траншэю і напаткала Нохема: вылез з ямы, напалохаў яе. (У бялізьне.) Расказвае ўсё пра [жонку] Цылю. Прывяла ў бліндаж. <...>*

*Нохем, фатограф. З мястэчка. У яго Цыля, і двое старых, і двое малых. Усіх пастралялі. Ён вылез з ямы. Трохі чокнуты. То плача, то сьмяецца.*

*«Што мне ваша пабеда!»*

*У яго тры сыны вучыліся ў сталіцах: на лётчыка, інжынера, кінаапэратара. Ён працаваў, але быў задаволены. <...>*

***[12. Качан.]***

*– Яфрэйтар [немец] у вёсцы. Дастае пачак махоркі. Харошы дзед. Быў у тую [вайну] – у палоне. Даў.*

*– Серафімка пячэ хлеб. Страх. Сьпякла. Прылегла. Недзе: бах-бах! <…> ля дарогі. (У бульбянішчы.) Заснула. <…>*

*Назаўтра [Серафімка] бяжыць парасьнікамі. І паранены Качан. <…> Паўзе. Паранены ў ногі. <…> Папрасіўся: ратуй, дам золата. <…> Прыбягае ў зямлянку. З немцам прыносяць Качана. <…> (У таго сала.) Дацягнула да траншэі, пакінула. Прыцягнула з немцам. Немец яе памочнік. <…> Але адкуль золата?*

*Качан. Бацьку яго раскулачылі ў 37[-м]. Немцы яго зрабілі паліцаем. Але ён уцёк. Куды толькі?*

*«Як жыць чэснаму чалавеку? Я нікому не хачу служыць. Я сам па сабе».*

*– Лічыць, бяда пачалася з зямлі. Праклятай зямлі, якую далі ім на 6 едакоў па 2 дзесяціны ў 21 г. Бацька ўлёг [у працу] і стаў кулаком.*

*– Немцы далі павязку, бельгійскую вінтоўку. Што рабіць? Перш страляць яўрэяў. Ён кінуў вінтоўку ў сажалку, павязку павесіў на плот і пайшоў у поле.*

*Але тыдзень паходзіць з павязкай.*

*– Ноччу паліцаі падстрэлілі, і ён поўз. Серафімка бегла, пачула. Пайшла з немцам, прыцягнулі.*

*– Качан – паліцай, якога нехта падстрэліў. Ён антысеміт і сволач. <…>*

*–У зямлянцы. Допыт Качана. Блытаны чалавек. Хадзіць ня можа, але рана ня надта – у зад: скруціла нагу.*

*<…> Пакуль хворыя і нямоглыя, як дзеці: паслухмяныя.*

*А затым стычкі:*

*Камандзір – Дземідовіч*

*Нохем – немец*

*Усе супраць Качана. <…>*

***[13. Серафімка.]***

*<…> Спрэчкі ў бліндажы: адступленьне [–] у тым стратэгія. Сталін хоча заманіць, каб затым зьнішчыць (Дземідовіч? Хлебнікаў?).*

*– Хлебнікаў (Дземідовіч) арганізуе ахову: пільнаваць. Удзень садзяць Серафімку. Аднойчы тут паяўляюцца паліцаі. Сядзяць. Ратуе С[ерафімка]. Як?*

*– Мо’ як у Вайды?*

*[Нохем зьнікае.]<…>*

*– Дземідовіч пачаў папраўляцца. (Капітану горш.) І пачаў думаць: каб застрэліць немца, каб памёр капітан, пра Серафімку…*

*– Серафімка прынесла хлеб. Радасьць. <…>*

*Пачынаюць есьці. <…> А тут – паліцыя… Паліцаі ходзяць па траншэі. <…> Марадзёры. У бліндажы ўсе замерлі. <…>*

*Пасылаюць Серафімку. Назіраюць двое з траншэі.*

*Дземідовіч і немец вылезьлі ў траншэю.*

*Назіраюць.*

*Немец кажа: надо пук-пук!*

Дз[емідовіч] – не!

<...> Піліпёнкі прыйшлі да яе. Паліцаі сустрэлі яе на сьцежцы <...>. Дзе Качан? Вядзі. <...> і яна павяла іх у лес. Як лес скончыўся, сталі.

Там яе згвалцілі... <...> Іх было трое. Піліпёнак, адзін у шынялі і адзін малады бугай. Яны згвалцілі С[ерафімку]. <...>

Як з яе знушчаліся ў калгасе – як з сястры ворага народу.

Серафімка радавалася: во дзе мір! Жывуць у міры, як добра. Але не.

<...>

Яны яе не забілі*. Але яна болей не прыйшла ў бліндаж. <...>

А ў бліндажы пра яе мяркуюць кожны са свае калакольні. Капітан, Дземідовіч, паліцай [Качан], немец. Есьці няма, вады няма. <...>

У бліндажы голад. Хто такі Качан? Размова: Хлебнікаў, Дземідовіч, немец. <...> Хлеб зьелі. К[апіта]н змарнеў. С.[ерафімка] ня йдзе.

Немец ідзе капаць бульбу. Ноччу вараць. <...>

Дземідовіч ноччу зрабіў спробу ўцячы. І загразь у тарфянішчы. [Немец пайшоў яго шукаць. Знайшоў. Прынёс непрытомнага.] Сьмерць Дземідовіча. Немец яго хавае ў траншэі.

Немец сыходзіць. <...> Немец хутка адчуе сябе вышэйшым. Але яго ўражвае Сер[афімка].

Немец кажа: пайду. Капітан не затрымлівае і не пытае.

<...> Паліцай (Качан) утаіў, што ён – паліцай. І чакае. А на полі С[ерафімцы] сказаў, што яго – [паранілі] Піліпёнкі. <...>

*Хлебнікаў і Качан. Качан спрабуе ўкрасьці пісталет.*

*Хлебнікаў яго страляе.<…>*

*Палічыў – засталося 5 патронаў.*

*<…>*

*Застаецца адзін капітан [Хлебнікаў].*

*<…>*

*Хлебнікаў ня можа ў бліндажы і выходзіць на поле бою з пісталетам. Страляе і крычыць «Ура!».*

*[1987]*

## Бутэльчына, альбо Прэзідэнт на дрэве

*Апавяданьне*

Яхім Памазок – ветэран ВАВ і калгасны качагар па сумяшчальніцтве. Ягоная жонка Кацярына доўга рабіла ў калгасе даяркай, зарабіла паўкілё металёвых узнагародаў на грудзі і звалася майстрам машыннага даеньня. Яхім, што прынёс з вайны ўсяго адзін ордэн, вядома ж, зайздросьціў жонцы і хацеў, каб яго звалі май-страм цэнтральнага ацяпленьня. Званьне тое, аднак, не прышчапілася да Памазка, можа, з тае прычыны, што быў ён сьпец іншае справы, пра якую не любіў казаць. Але ён стараўся. У партыі браў удзел амаль пяцьдзесят год, часам актыўнічаў, аднойчы нават абіраўся ў раённы савет, ды няўдала. Сябры суцяшалі: яшчэ ня вечар. З тваімі заслугамі напэўна можна дачакацца лепшага – вунь колькі старых бздуноў сядзяць дэпутатамі, чым ты за іх горшы?

Той дзень яны трохі прыклаліся да чарговай бутэльчыны – там жа, у качагарцы на сконе дня. Замурзаную бутэльчыну прынёс маладзейшы Яхімаў напарнік Юрка Дзядзенка, нядаўні механізатар, якому трактар вясной пераехаў нагу, і ён рабіў у качагарцы. Зрэшты, як заўжды, галоўны Юркаў клопат палягаў наконт выпіўкі. Гэтую бутэльчыну ён перахапіў у знаёмага хлапца з «Сельгастэхнікі», які ў сваю чаргу прывёз яе ад адной бабкі з хутару, дзе тая гнала адмысловае па тым часе пітво. Усе, каму давялося паспытаць яго, казалі: бярэ, бы зьвер. У качагарцы тае прадукцыі яшчэ не каштавалі.

Не пасьпелі дружбакі выцягнуць з бутэльчыны куртаты, нібы абгрызены, папяровы корак, як у кацельнае сутарэньне ўвапхнуўся трэці сабутэльнік – былы аграном Ладуцька.

Гэты меў даўно адпрацаваны ў такіх выпадках нюх і не пудлаваў ніколі. Часам сябры былі ня супраць ягонага ўдзелу (калі выпівону хапала), часам наракалі – калі таго было мала, але заўсёды дзяліліся па-справядлівасьці. Той раз бутэльчына выдалася нішто сабе – большая за паўлітра, а што да яе зьмесьціва, дык спрактыкаваныя пітакі вызначылі адразу. Ладуцька аж скалануўся ад задавальненьня: ай, халера, бярэ! Бярэ, пацьвердзіў і Памазок, глыкнуўшы з заскарузлай ад бруду шклянкі. Па чарзе выпілі ўтрох, закусілі цыбулінай з салам ды абкрышаным кавалкам хлеба. Большага ім і ня трэба было – галоўнае выпіць ды закурыць. Натуральна, не марудзячы, выпілі і яшчэ, а затым дадалі. Менавіта тады ў зачыненыя на крук дзьверы качагаркі пастукалі – моцна, патрабавальна, як гэта звычайна рабіла хіба Памазкова жонка або хто з начальства. Кампанія сьпярша прыціхла, а пасьля Памазок падняўся. Паводле нейкіх толькі яму вядомых прыкметаў ён сьцяміў, што то ня жонка і ўжо не старшыня – хтось іншы.

І праўда, то была паштарка Рыбакова Анюта, якая з парогу сунула Яхіму пакамечаны, са сьнежнай крупкай блакнот – тэлеграма вам, расьпішыцеся.

Дрыготкай рукой Памазок крамзануў сваё прозьвішча і разгарнуў аркушык тэлеграмы. Міжнародная, аднак, значылася буйна ўгары, а ўнізе быў нейкі тэкст, які Яхім ня мог прачытаць без акуляраў і аддаў маладзейшаму Юрку. Той моўчкі прачытаў і, дзіўна якочучы, бокам паваліўся з табурэткі на падлогу. Памазок няўцямна пазіраў на яго. Паперыну ўзяў Ладуцька. Маё віншаваньне, маё віншаваньне, замармытаў ён і аж крыкнуў: «Юрка, кроў з носу бутэльку!» – «Але што?» – няўцямна ўтаропіўся ў яго Яхім. «Што? А во што, чытаю: «Містэру Памазку Яхіму Найвышэйшы дзяржаўны савет дэмакратычнай рэспублікі Памазоніі віншуе вашую вялікасьць з абраньнем на высокую пасаду прэзідэнта рэс-

публікі Памазоніі якую належыць заняць 22 лістапада білет авіякампаніі Люфтганза да шчасьлівага спатканьня подпіс найвышэйшы савет».

Памазок зьняможана апусьціўся на абабітую цыратай табурэтку, ён не разумеў нічога: «Каго? Мяне? Якім прэзідэнтам? Якой Памазоніі?» «Цябе, цябе, ось жа напісана», – тыцкаў яму тэлеграмай у твар Ладуцька. Юрка Дзядзенка, ад'енчыўшы сваё, сеў роўна на лаўцы і высалапіў ад зьдзіўленьня вочы, бы ўпершыню ўбачыў напарніка, які ўсё паўтараў няўцямна: «Я – прэзідэнт?» – «Ты, ты, ось жа напісана. Юрка, бягом за бутэльчынай», – камандаваў былы аграном.

І праўда, Дзядзенка паслухмяна падыбаў на сваёй кульбе да дзьвярэй, а Памазок усё ня мог чагосьці зразумець. Найперш ці не правакацыя тое, арганізаваная міжнародным імперыялізмам або сусьветным сіянізмам? І дзе тая Памазонія, якой ён ніколі ня чуў нават, што за краіна? Добра, калі сацыялістычная, а калі... І чаму яго ў прэзідэнты, ці ён прасіўся? Найперш карцела паслаць усіх на тры літары ды вярнуцца да таго, што было. А было няблага, яны спакойна выпівалі... Але ж Юрка пайшоў па гарэлку, мабыць, нягожа падводзіць сяброў, гарачыцца, лепей узважыць усё як мае быць. «Во і добра, што тады цябе ў райсавет пракацілі», – сказаў Ладуцька. «Чаму гэта – добра? – зьдзівіўся Памазок. – Нявартыці што?» – «Варты, варты, але тады б прэзідэнтам ня стаў. А так – прэзідэнт, віншую», – амаль лісьліва мовіў Ладуцька. А й напраўду, падумаў Яхім, нашто адмаўляцца? Калі што, качагарка ад яго не ўцячэ. А там, можа, хоць дзяшовую іншамарку прыдбаць, а то зяць ужо воўкам глядзіць, яшчэ дачку кіне. Але ж – жонка, раптам задумаўся Яхім, як яна да таго паставіцца? Прэзідэнтша ж...

Яго клопатны роздум перапыніў Дзядзенка, які, канешне ж, прынёс і бутэльчыну. А з ім у качагарку напхнулася

і яшчэ выпівохаў розных узростаў – ужо ўсе ведалі Памазкову навіну і прагнулі яе абмыць. У кацельні стала цесна ад людзей, якія абступілі Яхіма. Кожны стараўся павіншаваць ці хоць пахваліць, а то і даць параду: «Ну, пашэньціла чалавеку! Памазок там навядзе парадак! Слухай, ты там адразу – дэмакрацыю к ногцю! Калі што – мы на падмогу. Але ўжо там пап’еш гарэлачкі...»

Памазок усьмешыста маўчаў, яму ўжо не цікава стала размаўляць з гэтымі людзьмі і адказваць на іхнія досьціпы. Галоўнае – ён паверыў у сваю ўдачу і амаль пераканаў сябе, што ўсё правільна. Іначай і не магло быць. Ён – прэзідэнт рэспублікі Памазоніі, пэўна ж, высакаразьвітай, не якой-небудзь адсталай краіны. Адсталая краіна яго прэзідэнтам не выбірала б. Канешне, ён там ня быў, але не сказаць, што зусім незнаёмы з «капстранамі» – калісь у вайну браў Берлін і нават адзін раз пераспаў у мокрым шынялі на іхняй пярыне. Нічога асаблівага. Праўда, тады ён быў радавы, не сяржант нават, а тут – адразу ў прэзідэнты. Граматы меў няшмат – сем класаў, але павінна хапіць. Расьпісацца ўмеў прыстойна, асабліва калі пакласьці локці на стол, а для прэзідэнта тое, мабыць, галоўнае.

І тут ён здагадаўся, чаму ў прэзідэнты Памазоніі абралі менавіта яго. Уся справа ў прозьвішчы. Ці не паходзяць ягоныя продкі Памазкі з тае Памазоніі? Добра ж вядома, што заўсёды і ўсюды цягнуць сваіх людзей – хоць з калгаса ў раён ці з раёну ў сталіцу. Гэтак і ў іншую краіну. Калі так, дык ўсё зразумела і, мабыць, законна. Няма пра што турбавацца. У той дзень надвячоркам ён ужо не пайшоў у качагарку, на ягонай зьмене яго падмяніў напарнік. Рана ўстаўшы назаўтра, пачаў рыхтавацца ў дарогу. Найперш аднёс у майстэрню боты. Боты, канешне, ня новыя, але калі падбіць падмёткі, дык яшчэ паслужаць і ў той Памазоніі. Па дарозе зайшоў у цырульню. Увогуле падстрыгаць не бы-

ло чаго – даўно ўжо ад ілба да патыліцы пралягала шырокая лысіна, ды ўсё ж... Калі стаў прэзідэнтам, дык хацеў выглядаць адпаведна. Мабыць, у дарогу трэба было б мець які чамаданчык, ды ў местачковых «Таварах паўсядзённага попыту» чамаданаў не было. Давялося пазычыць невялічкі куфэрак у Сьцяпаніхі, які застаўся ад зяця, што калісь зьбег ад дачкі на БАМ. Спрытны куртаценькі гальштук пазычыў у агранома – казалі, бяз гальштука там будзе нягожа. Можа, і праўда. З жонкай сталася горш – два дні сварыўся. Сьпярша ягоная Кацярына была катэгарычна супраць, каб ён куды ехаў, а пасьля, заплакаўшы, заявіла: і я з табой. Яхім стаяў на сваім: паеду адзін. А як абжывуся, тады паклічу цябе. «Чорта ты паклічаш, там сабе маладзейшую знойдзеш...» Ледзьве адчапіўся ад жонкі.

Праводзілі прэзідэнта Памазоніі сьціпла і непрыкметна. Купка дружбакоў прыйшла на засьнежаны аўтобусны прыпынак, куды ён прыпёрся за паўгадзіны раней часу. Ззаду ішла сплаканая жонка, усё бубніла сваё: «Ну паглядзіце, здурнеў стары. Ну куды ён прэцца?» – «Ладна, ня плач, прэзідэнтшай будзеш», – суцяшаў яе Ладуцька, які трымаўся ля сябра неяк дужа блізка і сардэчна, быццам што хацеў сказаць асаблівае. Ён і сказаў, як Кацярына адвярнулася: «Можа, там, гэта, і мяне куды... Каб па аграрнай часьці. А то тут, ведаеш... Памазгуй, Яхімка». Яго перапыніў Юрка Дзядзенка, які прыстыргікаў на прыпынак, канешне, не з пустымі рукамі. «Трэба аглаблёвую!» – прапанаваў ён, адкаркоўваючы бутэльку, якую спаважна перадаў напарнікупрэзідэнту. Той трохі выпіў, затым выпілі Дзядзенка, Ладуцька, абодва браты Целяпенчыкі і напасьледак да бутэлькі прыклалася заплаканая Кацярына. Тады і перастала плакаць. Тут якраз падкаціў аўтобус. «Ну – пакеда, чакайце на госьці», – махнуў з аўтобусных дзьвярэй Памазок. Невялічкая грамадка засмучаных землякоў засталася на аўтобусным прыпынку.

Як ён ехаў аўтобусам да станцыі, пасьля цягніком да Масквы і там праходзіў доўгую шаталомную працэдуру ў міжнародным аэрапорце – мала што запомніў, усё нібы плыў у разрэжаным алкагольным тумане, хаця і быў цьвярозы, бы шкельца. Ды так сталася, што ўсё было ня ў знак, – ішоў не туды, рабіў ня так і ня тое. Яго раз за разам асаджалі і тузалі, нават лаяліся – усе гэтыя міліцыянеры, жанчыны з пагонамі і нават дзяўчаткі, зусім лагодныя з выгляду, але што да яго, дык з яўна металічнымі позіркамі. Яму так і карцела абурыцца, сказаць ім, хто ён і куды едзе. Ды ўсё ж чалавек ён быў сьціплы, асабліва сярод незнаёмых людзей, і трываў. Трохі ачомаўся толькі ў самалёце, як мілае дзяўчо ласкава папыталася, што ён будзе піць? Ён зірнуў на стос бутэлек у калясцы і ткнуў заскарузлым ад торфабрыкету пальцам у самую знаёмую – во гэта. Дзяўчо наліла з напарстак «Сталічнай», і тады Памазок, можа, упершыню схамянуўся – а ці туды ён едзе. Калі выпіць даюць – курам на сьмех!

У самалёце ён хутка заснуў лёгкім сном праўдзіўца, ня грэшніка, ведама ж нямала натузаўшыся ў дарозе. Прачнуўся, як падкацілі каляску з харчам, ды столькі, што ледзьве зьмясьцілася ўсё на маленькім адкідным століку. Тады зноў далі выпіць – паўшклянкі кіслага віна, якое ён не ўзлюбіў з часоў дружбы з братушкамі. А во ягонаму суседу – выгалястаму буржую ў стракатым пінжаку, налілі чагось, пэўна, мацнейшага, а пасьля і яшчэ дабавілі. Памазку таксама захацелася такога, але ён ня ведаў, як папытацца, і трываў. Хай, думаў, дацягну да Памазоніі, а ўжо там...

Самалёт ішоў над аблокамі, унізе, мяркуючы па ўсім, быў акіян, глядзець там не было на што, і ён зноў заснуў. А як прачнуўся, дык аж спалохаўся, што спозьніцца – усе паўскоквалі з месцаў, пачалі цягнуць свае валізкі, апратку, – мабыць, прыехалі. Па гучнай сувязі ў самалёце пра штось абʼяўлялі, але хіба зразумееш, пра што? І тады Памазок па-

думаў: ці знойдзецца хто ў Памазоніі, каб разумеў па-нашаму? Але наўрад. Калі ўжо ў Менску мала хто разумее, дык чаго чакаць у заморскай краіне. Гэта яго пачало турбаваць.

Дарма, аднак, тое яго турбавала – ужо на першай паліцэйскай загародцы, нават не запытаўшыся, яго пазналі, і два маладыя, дбайна апранутыя чалавекі кудысь павялі праз аграмністы гаманкі аэрапорт. Як толькі выйшлі на сьпякотную вуліцу пад шэрагам высачэнных пальмаў, падкаціў даўгі аўтамабіль, і тыя паслужліва расчынілі дзьверы – сядай, пан прэзідэнт. Ён і сеў. Пасьля селі яны – адзін наперадзе, другі, што нёс ягоны перавязаны дзяжкай куфэрак, побач. Як яны ехалі, Памазок ва ўсе бакі круціў галавой, дужа яму тут было цікава. Людзей на вуліцах сноўдала процьма – белых, чорных і нейкіх невялічкіх жаўтлявых, міма праносіліся статкі аўтамабіляў, і тут, і там стаялі купкі плячыстых «гарылаў» у камуфляжнай форме жабінага колеру. Што шмат паліцэйскіх, Памазку спадабалася: значыць, будзе парадак у ягонай Памазоніі, такі ж, як і ў Беларусі. Хіба палкі ў гэтых былі надта кароценькія, ня тое, што ў беларускіх – трэ будзе падоўжыць, пачаў уваходзіць у дзяржаўны клопат новы прэзідэнт. Ён спрабаваў загаварыць з канваірамі, але абодва маўчалі, бы нямкі. Тады і ён змоўк, падумаўшы: можа, яны саромеюцца яго, бо ўсё ж маладзейшыя, а ён стары, ды не абы-хто – прэзідэнт!

Яны доўга ехалі па зіхоткіх ад шыльдаў вуліцах невядомага гораду, затым праз нейкі дзівосны лес з велізарнымі, проста гіганцкімі дрэвамі. Гэткіх сукаватых дрэваў не расло на Памазковай радзіме, у густое суччa ўгары не прабівала нават яркае сьвятло фараў. А як аўтамабіль спыніўся, зьдзіўленьню Памазка не было мяжы. Сярод лесу ярка асьветлены электрычнасьцю раскашаваў палац. Чырвоная жвіровая дарожка, шырокія прыступкі і над імі калоны. Бог ты мой, якія гэта калоны – белыя і таўшчэзныя, з пакручасты-

мі загагулінамі на вяршках, якія нібы ўкручваліся ў прыцьмелае неба. Задраўшы ад захапленьня голаў, Памазок аж спыніўся, але да яго штось гукнуў той, што ішоў ззаду, і ён подбегам дагнаў пярэдняга, які ўжо расчыняў высачэзныя дзьверы ў палац.

Усё тут наскрозь было заліта электрычнасьцю, чырванела дыванамі ў доле. На ягоным шляху маўклівымі слупамі стаялі нейкія людзі, у чорным і камуфляжы, па безьлічы новых прыступак яго павялі ўгору. Сьпярша ён пачаў лічыць тыя прыступкі, налічыў пяцьдзесят і кінуў. Затым яны кудысь шпарка ішлі праз пакоі і па калідорах, цемнаватых і сьвятлейшых, і ўрэшце, як ён зразумеў, прыйшлі. То быў вялізны, бы вакзальны, пакой з блішчастым і сьлізкім паркетам, на сярэдзіне якога блішчэў бакамі нейкі агромністы шкляны каўпак. У прыцемках прыгледзеўшыся да яго, Памазок зразумеў, што пад каўпаком ложак. Вялізны шырокі ложак з бялізнай, на якім ці не яму сёньня спаць? Абодва ягоныя канваіры дзесь зьніклі, замест іх зьявілася чорненькая жанчынка з дужа белымі зубкамі і ў белым фартушку. Яна паставіла на столік пры каўпаку блішчасты падносік і, усьміхнуўшыся, выйшла. Памазок адразу пацікавіўся, што на падносе, – але нічога здатнага ня ўбачыў. Пара нейкіх зялёных фруктаў, шклянка жоўтага соку, малако ў кубку і ўсё. Ні чарчыны, ні бутэльчыны. Скупыя, аднак, людзі ў гэтай Памазоніі, падумаў прэзідэнт. Хаця не сказаць, каб бедныя.

Трохі патупаў з кутка ў куток гэтай стадолы, паслухаў цішыню. Абышоў вакол каўпака, пастукаў пальцам па ягоным шкле – тоўстае халера. І навошта? Ніхто болей да яго не заходзіў, і прэзідэнт, памарудзіўшы, сьцягнуў з ног боты. Спаць – ведаў з часоў даўняй салдатчыны – было заўсёды найлепшым выйсьцем. Як у вайну, так і ў міры.

Прачнуўся, мусіць, зарана, вылез з-пад каўпака, сеў у крэсла і сядзеў. Чакаў. Скрозь было ціха, чуваць толькі, як за акном у гольлі дрэваў шу-галі птушкі, акурат як у садку за качагаркай – сініцы. Тады ён пайшоў шукаць месца, дзе можна б справіць сваю патрэбу. Тыцнуўся ў адны дзьверы – зачыненыя, у другія – таксама. Тады знайшоў трэція, адразу, як адчыніў іх, навакол пыхнула сьвятлом, ярка высьвеціла ўсё, і Бог ты мой, што ён згледзеў! Думаў – туалет, а тут аказалася адмысловая туалетная зала, усе сьцены і столь – бялюткія і люстраныя, як і ванны ды розныя ракавіны і ўнітазы. Шмат што навакол аздоблена золатам, невядомага начыньня – бы ў кабінеце зубнога доктара. Ён дакрануўся да аднае кнопкі, ды аднізу як плясьне ў твар – аж вылаяўся, падумаўшы, аднак, што, мабыць, гэтак нягожа. Напалохаўшыся, адразу падаўся да выхаду. Падумаў, можа, дзе знойдзецца болей звыклае месца, тут пэцкаць што ў яго не хапіла адвагі.

Як ён вярнуўся да свайго каўпака, зноў расчыніліся нейкія дзьверы і ў пакой увайшла мажная белая жанчына – зноў з маленькім падносікам у руках. Штось буркнуўшы, яна паставіла падносік на месца ўчарашняга, які ўзяла з сабой. Наважыўшыся, Памазок пастукаў па баку каўпака –навошта гэта? Думаў, не зразумее, аж зразумела і сказала: пук-пук ноу. І ўсьміхнулася. Надзіва і Памазок зразумеў: то ад куляў, а ён думаў... Але што з таго вынікае?

Трохі азадачаны, падышоў да свайго сняданку – зноў высокая шклянка соку, нешта цёплае ў малюпасенькім чайнічку, скрылёчкі сыру і маленькая булачка. Выпіць жа зноў не было ні кроплі.

Не пасьпеў ён падумаць, што зьесьці, як расчыніліся дзьверы і ў пакой шпарка ўвайшлі яго ўчарашнія маладыя канваіры. Адзін з іх моўчкі, але выразна кіўнуў на дзьверы.

«З куфрам?» – папытаўся Памазок, паказваючы на свой пакінуты пры ложку багаж. Той крутнуў галавой – значыць, без багажу, зразумеў Памазок і падняўся.

На гэты раз яны нікуды не паехалі, толькі ішлі доўгімі калідорамі – быццам у другі канец палацу, дзе зноў апынуліся нібыта ў больніцы – усё тут было гэткае белае і сьветлае. Наўкола зьзялі нейкія прыборы, крэслы, люстэркі. Людзі, пераважна жанчыны, былі апранутыя ў белыя зграбныя халацікі. Заўважыўшы ягоны зьбянтэжаны выгляд, адна, дужа белазубая, мовіла: імідж, імідж, ды ён не зразумеў – які імідж? Але яго прымусілі распрануцца ў дужа шыкоўным і вялікім прылазьніку, і як толькі ён, голы, пераступіў парожак, яго тут жа абдало сьцюдзёным струменем зьверху. Скалануўшыся ад нечаканасьці, ён не адразу знайшоў што пакруціць, каб пацепліць ваду. Неяк абмыўся збольшага, праклінаючы, аднак, гэты залішні шык. Але разумеў, канешне, што, мабыць, так трэба, што гэта – ня дома. Ды і ён не качагар. Усё ж – прэзідэнт.

Як памыўся, распараны, надзеў на сябе белы тоўсты халат, што вісеў на залачонай вешалцы побач, і выйшаў. Тут яго зноў абступілі жанчыны, усе ў чысьценькім белым, нібы даяркі. І, адвёўшы ў надзвычай сьветлы кабінет, пасадзілі ў крэсла. З усіх бакоў зьзялі люстэркі, і з іх ашаломлена пазірала ягоная аздаба. Жанчыны пачалі штось абмяркоўваць, як ён здагадаўся, – ягоны выгляд. Ён і сам з цікавасьцю паглядзеў на сябе. Канешне, не маладзён, зашмат зморшчын на цёмным, нібы апечаным твары дый выгляд надта заклапочаны, бы вінаваты. Але што зробіш? Найперш узяліся за яго парэпаныя ў качагарцы рукі, паклалі іх на бялюткія сурвэткі, дзе мазалі, мачылі і церлі. Мабыць, кепска, аднак, адціраліся ўедлівыя сьляды торфабрыкету з яго замазалелых рук. Ды майстрыцы стараліся. Асабліва наконт вялікага пальца з крывым заскарузлым кіпцем, які

яны і пілавалі, і шліфавалі, – усё роўна той заставаўся крывы і непрыгожы. Далей, ужо ў другім крэсьле яго далікатна стрыглі, галілі шчокі, парфумілі і макіяжылі – наводзілі незвычайны шык на яго прэзідэнцкі твар. Пасьля ўсяго наклеілі на лысіну ладны кучаравы хамлак і пад нос – зухавата-бухматую паску вусоў. Усё тое было відаць у люстэрках, і Памазок толькі зьдзіўляўся, як з нядаўняга качагара выходзіць зухаваты фарсісты замежнік. «Імідж, імідж», – усё шчабяталі майстрыхі, і ён спакваля зьмірыўся з сваёй нялёгкаю доляй. Але што ж, мусіць, доля таго вымагала.

І праўда, з аграмаднага крэсла ён устаў зусім іншым, чым нядаўна садзіўся туды, і пачувацца стаў адпаведна. Найперш – прыбыло сілы і нават гонару. А як у наступным пакоі пачалі мераць яму гарнітуры, дык ён аж спадабаўся сабе – такіх файных апратак ён ня толькі ніколі ня меў, але і ня бачыў. Хіба ў тэлевізары. Чорны, бы смоль, пінжак з бялюткаю хустачкай у кішэньцы, такая ж белая сарочка і гальштук. Чаравікі замянялі двойчы, пакуль не прынесьлі дужа блішчастыя на высачэзных абцасах, ад чаго ён куды як падвысіўся ростам. З насалодай пратупаў па люстраным паркеце – лясь, лясь... Добра стаць прэзідэнтам!

Настрой яго трошкі пагоршаў, калі ў іншым пакоі, куды яго затым прывялі, вялізны паліцай ці вайсковец падаў яму штось няўклюднае і цежаленнае. «Што гэта?» – зьдзівіўся Памазок, і здаравяк адказаў: «Пан-цірблёк!» Бесцырымонна зьняўшы з яго пінжак, той навесіў на ягоныя плечы дзьве засланкі – сьпераду і ззаду. Памазок аж прысеў. «Але ж цяжкі», – мовіў ён, ды здаравяк толькі выскаліў свае конскія зубы. Як надзеў зьверху пінжак, дык стаў сам ня свой – нейкі камлюкаваты, здаравенны і таўсты. Ад нядаўняе Памазковай шчуплыні не засталося і сьледу.

Затым далі трошкі спачыць у прахалодзе з пальмай над высокай зашклёнай стольлю. На нізенькі, таксама шкляны

столік прынесьлі дзьве шклянкі – з сокам і лёдам, да якіх Памазок і не дакрануўся нават. Што яму сок, калі карцела чагось зьесьці і, канешне, глыкнуць з такой ператомы. Дома гэткай парой ужо быў пасьнедаўшы, а то і паправіўшы галоўку, – калі было трэба. Але тут у яго не пыталіся, і ён ня ведаў, што і як сказаць. Ды во прыйшлі ажно тры вайскоўцы, сапраўды, быццам гарылы – усе ў камуфляжы і малінавых бярэтах, з вялізнымі рэвальверамі на баку. Зноў яго павялі. Адзін ішоў наперадзе, два ззаду – зноў нібы канваіры. Але Памазок ужо не баяўся, яго нядаўняя няёмкасьць збольшага мінулася, у новай аздабе ён пачуваўся амаль упэўнена, нават зьявіўся гонар. Ішоў, шырока сігаючы на высокіх абцасах і няўзнак пазіраў на сябе ў люстэркі, якіх багата траплялася па баках, зусім не пазнаючы ў гэтым вусатым таўстуну сябе – колішняга калгаснага качагара. Доўгі стракаты гальштук целяпаўся каля матні.

Урэшце невялічкі канвой спыніўся каля нейкіх зачыненых дзьвярэй, трошкі счакаў, і дзьверы шырока, на абедзьве палавіны расчыніліся. Тут яго прапусьцілі наперад, Памазок увайшоў у вялізную залу, ад парогу якой адзін супраць другога стаялі два шчыльныя шэрагі вайскоўцаў. Усе былі ў аднолькавым камуфляжы, толькі адзін шэраг быў у бярэтах малінавага колеру, а другі – маркоўнага. Шэрагі штось гаркнулі, падобна – вітаньне, на што Памазок паціху кінуў сваё – дабрыдзень, іншага ён ня ведаў. Наводдаль у канцы залы месьціўся аздоблены золатам стол з адным крэслам, у якое, як зразумеў Памазок, яму належала сесьці. Што ён і зрабіў без замінкі. Тады з шэрагу малінавых бярэтаў выйшаў самы тоўсты вайсковец і пачаў прамаўляць. Прамаўляў гучна і доўга, аж гуло ў высокім падстольлі, малінавыя прытым зьзялі вачыма, а твары маркоўных наадварот – корчыліся ад злосных грымасаў. Але ўсе стрымана маўчалі. Пасьля таўстуна малінавых таксама грымотным голасам

пачаў мовіць яшчэ болей тоўсты і аграмадны маркоўны. Памазок зьніякавела сядзеў на краі крэсла. Ягоная душа ўпершыню адчула, што гэтае прэзі-дэнцтва можа дабром ня скончыцца.

Як тыя два бугаі адкрычэлі свае прамовы, аднекуль збоку вынік непрыкметны малады чалавек з папкай і паклаў перад прэзідэнтам дзьве старонкі нейкага кароценькага тэксту. Тут жа зьявілася прыгожая асадка з залатым шлячком. Памазок сьцяміў, што трэба падпісаць. Што там надрукавана, было невядома, тэксты былі аднолькавага памеру, а вяршкі – з прыгожа намаляванымі пеўнямі. Але пеўні былі неаднолькавыя. Памазок ад нараджэньня быў хлопец прыкметлівы, і цяпер згледзеў, што адзін певень быў нібы ў пер'і, а другі – нібы абскубаны. Які з іх належала падпісаць першым, было невядома.

Між тым, абодва шэрагі зацята чакалі, скіраваўшы на яго нейкія дужа непрыемныя ваўкаватыя позіркі.

Памазок пасунуў да сябе тую паперчыну, дзе быў певень з пер'ем, і адразу адчуў, што памыляецца – левы шэраг малінавых заварушыўся, зласьліва загуў. Тады ён адсунуў паперчыну і пацягнуў руку да іншае – з абскубаным пеўнем, і тут жа настырчыўся шэраг маркоўных. Д'ябал іх ведае, як было зрабіць, каб дагадзіць абодвум? Трохі счакаўшы, бы ў роздуме, Памазок зноў падсунуў ранейшы аркуш і нават пасьпеў вывесьці першую літару П...

Падпісваючы, ён адным вокам працягваў сачыць за шэрагамі і адразу згледзеў, як аднекуль ад дзьвярэй паявіўся падобны на д'ябалёнка, невялічкі прыгнуты чалавечак з даўжэзным кулямётам у руках. Кінуўшы асадку, Памазок, бы на фронце, кульнуўся пад стол, як залу аглушыла грымотная кулямётная чарга. Ад стала паляцела ўгару ашмоцьце папераў, трэскі; Памазка, бы кувалдай, выцяла ў грудзі,

